№2(35)
2002г.
люты

# ГОМАН БАРЫСАЎШЧЫНЫ

Грамадска - палітычная, асветніцкая газета

Выдаецца са жніўня 1996 г.

Кошт свабодны

*Абвешчаны конкурс* ***для турыстаў,*** *які прысвечаны 900-годдзю* ***Барысава***

*Пераможцаў чакаюць узнагароды!*

*Падрабязнасці чытайце на старонцы* 14

# *Шляхі Барысаўшчыны:*

*якімі яны былі 100, 500, 1000 год таму?*

*Пра развіццё тутэйшых шляхоў чытайце на старонках* 8-9

Мост па адным з тутэйшых шляхоў на пачатку XX стагоддзя



## Сесія гарадской рады

22 студзеня адбылася чарговая сесія гарадской рады дэпутатаў. Асноўным на сесіі было пытанне выканання бюджэту мінулага года і прыняцце бюджэту горада на 2002 год. Даклад, які прачытаў Бургун В.І., паказаў стан і вынікі працы за год не толькі гарадской прамысловасці, у дакладзе прагучала ацэнка работы адукацыі, медыцыны і культурнай сферы. Менавіта гэтым невытворчым сферам пры дэфіцыце бюджэту прапанавана навучыцца зарабляць грошы самім. У мінулым годзе культура зарабіла 16%, медыцына 3%, а адукацыя толькі 0,36% ад запланаваных на сваю дзейнасць сродкаў.

І яшчэ адна цікавая лічба прагучала ў выступленнях: на "юбілей горада" пералічана ўжо 96 мільёнаў, а гэта толькі 10% ад патрэбнага.

Бюджэт горада прыняты ў памеры 32 мільярдаў 426 мільёнаў рублёў.

*Служба інфармацыі "ГБ"*

## Прыемна чуць

Наша газета не раз крытыкавала Барысаўскую чыгунку за дрэнную арганізацыю працы на чыгуначным вакзале. Папраўдзе сказаць - дык мала што і змянілася. Адметным у гэтай сувязі з'яўляецца і № 7 газеты за 2001 г., дзе гаварылася, што дыктары на вакзале вывелі з ужытку беларускую мову і аб'яўляюць цалкам па-руску.Тым больш прыемна давесці нашым чытачам, што гэтая прыкрасць зліквідавана. Цяпер аб'явы ідуць і па-беларуску.

Нам застаецца толькі ўспомніць народную мудрасць: разумнаму лёгка радзіць.

*М.Пучыла*

## Вёска ўсё бяднее

Падае прыбытак, а разам з тым і ўзровень рэнтабельнасці вытворчасці ў раёне. Аб гэтым з вялікай заклапочанасцю гаварылася на нядаўняй 16-й сесіі раённага Савета дэпутатаў.

Калі няма прыбытку, то няма і плацяжоў у бюджэт. На 1-ае студзеня мінулага года запазычанасць па плацяжах у бюджэт складала каля 37 мільёнаў рублёў, а сёлета на такі ж перыяд сума нядоімак шматкратна ўзрасла. Толькі 20 гаспадарак раёна павінны ў бюджэт каля 22 мільёнаў рублёў.

Можна меркаваць па гэтым аб ступені сціпласці прынятага на бягучы год бюджэту. Аднак, як сцвярджалася на сесіі, больш 80 працэнтаў асігнаванняў бюджэту будзе накіравана сёлета ў сацыяльную сферу, якая, вядома ж, пры такім грамадскім "багацці" знаходзіцца ў заняпадзе.

*А.Турко*

## Падведзены вынікі працы з непаўналетнімі

23 студзеня ў гарвыканкаме адбылося пашыранае пасяджанне камісіі па справах непаўналетніх, дзе разглядаліся вынікі працы з гэтай катэгорыяй моладзі за год. Прысутнічалі ўсе зацікаўленыя структуры горада: прадстаўнікі камісіі, інспекцыі па справах непаўналетніх, суда, пракуратуры, вытворчых калектываў, навучальных установаў, домакіраўніцтваў.

Адбылася зацікаўленая размова. Прааналізавана праца за год. Пастаўлены задачы на новы 2002 год.

*Служба інфармацыі "ГБ"*

## Алё! Алё!

Раёны вузел сувязі ў апошні час ідзе ў авангардных радах па ўзроўню вытворча-эканамічных паказчыкаў. Але ці ўсё так добра, як гаворыцца?

Што датычыцца, напрыклад, тэлефанізацыі горада. 14000 барысаўскіх сем'яў маюць кватэрныя тэлефоны. Пры гэтым застаецца больш 7000 незадаволеных заявак, палова з якіх – для льготнага кантынгенту грамадзян.

Справа, вядома ж, не стаіць на месцы. Але для вырашэння праблемы тэлефанізацыі ўсіх кватэр у горадзе і раёне спатрэбіцца больш аднаго мільярда рублёў. І гэтыя грошы яшчэ патрэбна знайсці: гэта значыць – зарабіць.

*А.Турко*

*Карэспандэнцкі пункт нашай газеты знаходзіцца па адрасе:* ***пр-т Рэвалюцыі, 33***
*Чакаем вас у* ***аўторак*** *з* ***15*** *па* ***17*** *гадз.,*
*у* ***чацвер*** *з* ***10*** *па* ***11*** *гадз.*
*У гэты ж час тэлефануйце нам па тэлефоне* ***6-35-81***

***Падпісвайцеся на газету "Гоман Барысаўшчыны"!***

*Падпісны індэкс* ***64184***

***Кошт індывідуальнай падпіскі без тэлевізійнага дадатку:***
на 1 месяц - **250** руб., на 3 месяцы - **750** руб.

***Кошт індывідуальнай падпіскі з тэлевізійным дадаткам:***
на 1 месяц - **550** руб., на 3 месяцы - **1650** руб.

***Кошт ведамаснай падпіскі без тэлевізійнага дадатку:***
на 1 месяц - **350** руб., на 3 месяцы - **1050** руб.

***Кошт ведамаснай падпіскі з тэлевізійным дадаткам:***
на 1 месяц - **750** руб., на 3 месяцы - **2250** руб.

## Ад нумара да нумара

***"Экран" мацнейшы***

*Па выніках працы сярод прамысловых прадпрыемстваў першай групы, якая налічвае 41 прадпрыемства Барысава, лепшым было прызнана навукова-прамысловае рэспубліканскае унітарнае прадпрыемства "Экран".*

***Фестываль***

*18 студзеня ў Менску адбыўся другі фестываль рэгіянальнай прэсы, на які з'ехаліся прадстаўнікі 50 недзяржаўных выданняў Беларусі. Барысаўскую прэсу прадстаўлялі чатыры незалежныя барысаўскія газеты: "Барысаўскія навіны", "Гоман Барысаўшчыны", "Кур'ер з Барысава", "Новая барысаўская газета".*

***Форум***

*У Зачысці прайшоў форум фальклорных калектываў Барысаўшчыны, на якім адбыліся семінар і круглы стол. Наваянчынскі гурт "Суседкі" выступіў перад удзельнікамі з цікавай канцэртнай праграмай.*

***Першыя***

*На прадметнай алімпіядзе сярод вучняў сярэдніх школ Менскай вобласці барысаўскія школьнікі былі першымі па фізіцы, рускай, іспанскай і англійскай мовах.*

***Не – пажарам!***

*Згодна праграмы супрацоўніцтва паміж беларускім МНС і іх швейцарскімі калегамі ў вёсках Барысаўшчыны будуць усталяваны аўтаномныя пажарныя апавяшчальнікі, якія дапамогуць пажарнікам хутчэй з'яўляцца на дапамогу.*

***Новая запраўка***

*Распрацаваны праект і ў хуткім часе пачнецца будаўніцтва новай аўтазаправачнай станцыі на 500 заправак на вуліцы Лапаціна ля санаторыя "Бярэзіна".*

***20000 тысяч***

*З 21 студзеня купюра такой вартасці ўведзена ў абарот у нашай рэспубліцы.*

***Гандлёвы дом***

*На другой пляцоўцы "БАТЭ" днямі адбудзецца адкрыццё новага гандлёвага дома, у якім можна будзе набыць прадукцыю прадпрыемства "БАТЭ" і іншых машынабудаўнічых прадпрыемстваў Беларусі.*

***"Выпускнікі" перамаглі***

*У гарадскім Палацы культуры зноў змагаліся вясёлыя і знаходлівыя: каманда 10 СШ "Выпускнікі", 23 СШ "Трамплін" і 3 гімназіі "БГУ". У складанай, але вясёлай барацьбе перамогу здабылі сабе выхаванцы 10 сярэдняй школы. Віншуем!*

***Акцыя "Зубра"***

*Упрыгожыўшы ганак гарвыканкама унітазам, а дзверы шыльдачкамі "Ж" і "М" "зубры" нагадалі кіраўніцтву горада, што трэба задумацца пра пэўныя патрэбы гараджан. 2 грамадскія прыбіральні на наш немалы горад - гэта мізэрна.*

***І "зайцы", і "зялёныя"***

*Ніякай валютай не грэбаваў урач-траўматолаг першай паліклінікі, выпісваючы фальшывыя бальнічныя лісты, за што і быў затрыманы органамі міліцыі. Стаўка: 20 даляраў альбо дваццаць тысяч беларускіх.*

***Служба інфармацыі "ГБ"***

# Разбуральны подых стыхіі

Ураганны вецер, які пранёсся ў апошнія дні студзеня па краінах Еўропы, нарабіўшы шмат бяды, закрануў сваім разбуральным подыхам і Барысаўшчыну.

У некаторых вёсках (Бродаўка, Веснлова і інш.) пазносіла дахі на хлявах, лісты шыферу з жылых будынкаў. У Ратуцічах – дах з трансфарматарнай падстанцыі.

У Тарасіках з кацельнай псіханеўралагічнага дома-інтэрната абрынуўся 36-мятровы металічны комін. Інтэрнат застаўся без цяпла. Для працаўнікоў інтэрната гэтае здарэнне – вялікая непрыемнасць, нават трагедыя. Большасць хворых не здольна адпаведна ўспрымаць рэчаіснасць, і ім нельга растлумачыць прычыну холаду ў памяшканнях. На аднаўленне працы кацельнай спатрэбіцца 8 млн.руб.

У горадзе па вуліцы Дняпроўскай на месцы будаўніцтва водазабору зламала ветрам шматгадовую хвою, вяршыня якой, паваліўшы плот, звалілася на двор жылога дома. У многіх дамах горада і раёна з-за абрыву праводаў не было святла, не працавалі тэлефоны.

***Служба інфармацыі "ГБ"***







*Вул. Дняпроўская. Хвоя, зламаная ветрам (зверху)*

*У Барысаўскім раённым РЭС работы па ліквідацыі аварый ідуць поўным ходам. Начальнік РДС М.Савасцеева (злева) і дыспетчар А.Мартысюк (знізу)*

# Каб святло не згасала

Штаб баявых дзеянняў нагадвала ў апошнія дні студзеня дыспетчарская сельскіх электрасетак Барысаўшчыны. Званкі ішлі бесперапынна. Дыспетчары апаратыўна звязваліся з працуючымі ў раёне брыгадамі і паведамлялі пра новыя кропкі, дзе чакалі дапамогі. На ліквідаванні наступстваў стыхіі працавалі 10 брыгад, тры з каторых былі сфарміраваны дадаткова. У іх лік увайшлі і кіраўнікі электрасетак.

Самыя вялікія пашкоджанні нанесла стыхія 30 студзеня, калі было абясточана 212 трансфарматарных пунктаў, 93 населеныя пункты, 21 ферма, пашкоджана 20 высакавольтных ліній. Ад жыхароў раёна паступіла 81 звестка пра адсутнасць электрычнасці ў дамах, у семдзесят дамоў святло было пададзена на працягу таго ж дня.

Асноўнай прычынай масавых адключэнняў з'яўляюцца абрывы высакавольтных ліній на лясных просеках, расчыстка якіх праводзіцца несвоечасова. Напрыклад, з-за падзення вялікіх бяроз была моцна пашкоджана лінія Мсціж - Ганцавічы.

Трэба адзначыць, што электрасеткі Барысаўскага раёна з'яўляюцца самымі працяглымі на Меншчыне. Агульны кіламетраж высакавольтных ліній складае больш за 1200 км, амаль такая ж працягласць нізкавольтных ліній – 1142 км. Размеркаванне току ажыццяўляецца праз 752 трансфарматарныя падстанцыі. Гэтую вялікую гаспадарку ў звычайных умовах абслугоўваюць 7 брыгад, з якіх 5 праводзяць планавы рамонт, а дзве выязджаюць па тэрміновых выкліках. У час стыхійных бедстваў аб'ём працы рэзка павялічваецца. Дабірацца да аддаленых кропак раёна часта даводзіцца па занесеных шляхах і праз іншыя перашкоды. За межамі населеных пунктаў: у лясных масівах і на палях пошук месца абрыву праводу патрабуе часу.

Карыстаючыся нагодай, працаўнікі электрычных сетак звяртаюцца да грамадзян з просьбай паведамляць пра заўважаныя пашкоджанні электрычных сетак у дыспетчарскую прадпрыемства (тэл.52658). І яшчэ адна просьба: падаўшы заяўку на ліквідаванне аварыі, не рабіць шмат паўторных званкоў, займаючы лінію. Калі заяўка зроблена, брыгада абавязкова прыбудзе. Трэба ўлічваць абставіны і не хвалявацца. Барысаўскія электрыкі зробяць усё магчымае, каб святло хутчэй вярнулася ў вашы дамы.

***Е.Гарковіч***

# Колькі ў вас нагарэла?

Ранішнія доўгія чэргі да дзвярэй абаненцкага аддзела ў барысаўскім "Энерганаглядзе" – з'ява штодзённая і звыклая.

Але ж пасля Новага года людзей тут значна болей, чым звычайна. Яно і зразумела. Многія неплацельшчыкі атрымалі ў канцы года пагрозлівыя лісты "Энерганагляду", дзе прапаноўвалася без прамаруджвання запазычанасць ліквідаваць, а не дык будзе адключана элекраэнергія.

Вядома, што прычыны запазычанасці могуць быць розныя: і няправільны падлік, і матэрыяльныя праблемы, і хвароба, ды яшчэ мала чаго. Але, напэўна, найбольш важкай прычынай, якая выклікала чарговы наплыў, з'явілася інфармацыя ў прэсе аб тым, што да канца першага квартала бягучага года тарыфы на электраэнергію для насельніцтва ўзрастуць на 40 %. І калі гэта сапраўды адбудзецца, то любая, нават невялікая запазычанасць у пераліку на новыя тарыфы можа аказацца літаральна "смяротнай" для сямейнага бюджэту.

У самім жа "Энерганаглядзе" наплыў абанентаў звязваюць больш з тым, што заканчваюцца разліковыя кніжкі і людзі прыходзяць атрымаць новыя. Тарыфы ж на электраэнергію, па меншай меры, зараз ніхто не павышаў. Калі ж і будуць павышаны, то іх справа, як і заўсёды, - улік і кантроль.

У горадзе на сённяшні дзень 52000 абанентаў. Штомесячна ў "Энерганаглядзе" фіксуецца прыкладна 32000 аплочаных квітанцый – 60% ад колькасці абанентаў. Пры гэтым астатнія 40% ніяк нельга аднесці да злосных неплацельшчыкаў, бо сярод гэтых абанентаў, як правіла, у большасці гаражы, нежылыя памяшканні і кватэры, дзе не карыстаюцца электраэнергіяй.

Ну, а з неплацельшчыкамі сродкі барацьбы вядомыя. Работнікі "Энерганагляду" сцвярджаюць, што адключэнне як прыватных дамоў, так і асобных кватэр у шматпавярховых дамах – з'ява не такая ўжо рэдкая ў Барысаве. Бываюць выпадкі спагнання запазычанасці за электраэнергію з прыватных асоб у судзебным парадку. Каб вырашаць пытанні такога парадку, у "Энерганаглядзе" пастаянна працуе юрысконсульт.

Карацей кажучы, калі вы даўно не заглядвалі ў свой электралічыльнік, то зрабіце гэта сёння. Кажуць, што скупы плаціць двойчы. Двойчы плаціць таксама бедны ці разгублены чалавек.

***А.Турко***

# Поцемкі на Заводскай

Аднойчы познім вечарам мы завіталі ў Залінейны раён, на вуліцу Заводская. Нас вельмі здзівіла, што са шматлікіх ліхтароў, што на ёй устаноўлены, гарэлі толькі некаторыя. Мы парадаваліся, што жывём не тут, але падумалі, як жа мясцовым вучням вяртацца з другой змены дамоў. Дзе гарантыя, што іх не пакрыўдзяць людзі з адмоўнымі паводзінамі. Да ці мала што можа здарыцца ў поцемках?

Нам вельмі хацелася б, каб да юбілею горада жыхарам гэтага мікрараёна зрабілі падарунак: асвятлілі вуліцы.

***М.Нячаеў, А.Малчанаў, юнкоры***

# Інфармацыя ДАІ г.Барысава

## аб даражна-транспартнай сітуацыі ў горадзе на працягу 2001 года і на пачатак 2002 года

За 12 месяцаў 2001 года на тэрыторыі горада зарэгістравана 44 дарожна-транспартныя здарэнні, у якіх 6 чалавек загінулі і 42 атрымалі раненні. Супрацоўнікамі Дзяржаўтаінспекцыі за гэты перыяд выяўлена 51639 парушэнняў Правіл дарожнага руху, з іх 19781 парушэнне дапусцілі пешаходы. Затрымана 1266 кіроўцаў у стане алкагольнага ап'янення.

Наступіўшы год працягвае негатыўную традыцыю, калі кіроўцы пакідалі месцы дарожна-транспартных здарэнняў.

02.01.2002г. каля $3^{20}$ кіроўца неўстаноўленай аўтамашыны, рухаючыся па вуліцы Гагарына ў раёне АЗС № 2, здзейсніў наезд на двух пешаходаў, якія ў стане ап'янення пераходзілі вуліцу ў непрызначаным месцы. Аўтамашына ж месца здарэння пакінула.

09.01.2002г. каля $17^{30}$ кіроўца аутамашыны ВАЗ-2105 здзейсніў наезд на пешахода, які пераходзіў вуліцу Будаўнікоў па пешаходнаму пераходу. Кіроўца з месца здарэння з'ехаў. Пешаход ад атрыманых траўм памёр у ЦГБ. Кіроўцы аўтамабіля былі затрыманы, па арт. 108 УПК РБ узбуджана крымінальная справа.

Пачасціліся выпадкі невыканання кіроўцамі патрабаванняў міліцыі аб спыненні транспартных сродкаў.

Так, жыхар Барысава Крушук А.М. двойчы 10.01.2002г. і 11.01.2002г., кіруючы аўтамабілем ВАЗ-21001, не спыніўся на патрабаванні супрацоўнікаў ДАІ. За парушэнне па арт. 119 гэты грамадзянін аштрафаваны за кожнае парушэнне ў памеры 50000.

15.01.2002г. каля $19^{00}$ электрык малочнага камбіната Грыгор'еў Д.Б., кіруючы аўтамабілем Опель-Астра ў стане ап'янення, не справіўся з кіраваннем і здзейсніў наезд на 3 аўтамашыны і пакінуў месца здарэння. Гэты кіроўца быў затрыманы. За парушэнне Правіл дарожнага руху Грыгор'еў пазбаўлены правоў кіроўцы на 36 месяцаў.

Зыходзячы з аналізу аварыйнасці, ДАІ рэкамендуе: кіроўцы абавязаны весці свой транспарт з хуткасцю, што не перавышае ўстаноўленых абмежаванняў, якая забяспечвае магчымасць кантролю за бяспечным рухам аўтамабіля. Пры гэтым ён абавязаны ўлічваць інтэнсіўнасць руху, асаблівасці і стан аўтамабіля і перавозімага грузу, дарожныя і метэаўмовы. Пры ўзнікненні перашкоды ці небяспекі для руху кіроўца абавязаны знізіць хуткасць нават да спынення транспартнага сродку.

У час сустрэчнага раз'езду на адлегласці не менш 150 метраў да сустрэчнага транспарту своечасова пераключайце дальняе святло на блізкае, таму што з-за асляплення магчымы наезд на пешаходаў.

Выконваючы правілы дарожнага руху, можна пазбегнуць няшчасных здарэнняў на дарозе.

***Дзяржаўтаінспекцыя***

# Інфармацыя аб злачыннасці і п'янстве сярод непаўналетніх у 2001 годзе

*Аддзел унутраных спраў паведамляе, што ў 2001 годзе на ўлік пастаўлена 112 злачынстваў, у якіх удзельнічалі 106 непаўналетніх. У 2000 годзе было адпаведна 186 злачынстваў і 137 удзельнікаў.*

*На фоне стабілізацыі ўзроўню злачыннасці адбылося зніжэнне колькасці цяжкіх злачынстваў.*

**Структура злачыннасці сярод непаўнагадовых**




Найбольш крымінагеннай катэгорыяй з'яўляецца вучнёўская - 42 -39,6% ад агульнай колькасці ўдзельнікаў. Вучні школ здзейснілі 68 (60,7%) злачынстваў.

51 злачынства здзейснена ў групах, у 2000 годзе іх было 80. 24 групы складаліся толькі з непаўналетніх. У мінулым годзе іх было 22. 25 груп было выяўлена, дзе злачынствы здзяйснялі разам дарослыя і падлеткі. Год раней іх было 23.

Вострай застаецца праблема п'янства сярод падлеткаў. 3 456 затрыманых у п'яным выглядзе ў грамадскіх месцах 147 падлеткаў дапускалі ўжыванне спіртнога двойчы і больш разоў на працягу года. Сярод затрыманых вучняў школ 208 (было 210), навучэнцаў ПТВ 109 (было 90), 19 (было 43) працуючых, 99 (было 89) тых, хто не вучыцца і не працуе. Ва ўзросце да 16 год - 89 (было 108). Асобы жаночага полу - 49 (было 54).

***М.Пучыла***






# Віншуем цярплівых навасёлаў!

Высока над сціплымі дамкамі старой часткі горада ўзвышаецца новы 10-ці павярховы беларужовы будынак жылога кааператыўнага дома па вуліцы Лапаціна. Пра гэты дом нельга вымавіць, як кажуць у таких выпадках звычайна, што ён "узнёсся". Ён падымаўся павольна, марудна, гадамі. І вось нарэшце будучыя жыльцы дачакаліся – днямі яны атрымаюць ключы ад кватэр.

Гісторыя будаўніцтва гэтага дома паказвае яшчэ раз усю неразваротлівасць нашага гаспадарчага механізму. Людзі, укладаючы ў будаўніцтва ўласныя грошы, чакалі наваселля аж дзесяць гадоў. За гэты час у сем'ях павырасталі дзеці, з'явіліся новыя члены сям'і, і доўгачаканае жытло многім ужо будзе цеснае. Некаторыя сем'і паспелі распасціся. Словам, многа воды сплыло за гэтыя гады...

І ўсё ж павіншуем з наваселлем нашых цярплівых землякоў, хай будзе ім утульна і радасна жыць у новых кватэрах пасля гадоў вандравання па прыватных пакойчыках і інтэрнатах!

***Е.Граковіч***

# На жаль, людзі гінуць ізноў

27 студзеня на перакрыжаванні вуліц Чапаева і Горкага пад коламі "Фольксвагена", якім кіраваў 20-гадовы вадзіцель, загінула 65-гадовая жанчына.

У гэты ж дзень на вуліцы Горкага п'яны вадзіцель цяжка траўміраваў пешахода, а на Заводскай вуліцы атрымаў траўмы таза, ключыцы і голені веласіпедыст, на якога наехаў аўтамабіль "Пантыяк". Вадзіцель, які не спыніўся, каб дапамагчы сваёй ахвяры, а з'ехаў з месца здарэння, быў хутка затрыманы міліцыяй на вуліцы Герцэна.

***Служба інфармацыі "ГБ"***

# Першы дзень новай маркі

*25 студзеня была ўведзена ў абарачэнне паштовая марка з серыі "Гербы гарадоў Беларусі", з выявай старажытнага герба г.Барысава. У 10 аддзяленні сувязі на цэнтральнай плошчы горада ў гэты дзень праводзілася спецыяльнае гашэнне новай маркі штэмпелем "Першы дзень".*

Марка "Старажытны герб Барысава" створана мастаком Ш.Хайруліным і аддрукавана ў выдавецтве "Беларускі Дом друку" ў колькасці 90000 асобнікаў. Марка выраблена ў 5 колерах, намінал маркі – 200, памер 28х30 мм.

Да дня выпуску маркі ў абарачэнне былі створаны спецыяльны памятны штэмпель, які карыстаецца толькі адзін дзень.

Спецыяльнымі паштовымі штэмпелямі традыцыйна гасяцца знакі паштовай аплаты, прысвечаныя важным дзяржаўным падзеям, гістарычным і памятным месцам і датам. Таму адбіткі спецпагашэння становяцца гістарычнай каштоўнасцю, якая карыстаецца попытам філатэлістаў і іншых зацікаўленых людзей.

Нельга сказаць, што падзея была адзначана вялікім напльвам зацікаўленых, але гэта, мабыць, вынік адсутнасці сталай традыцыі і малой інфармаванасці жыхароў горада.

Да гэтага дня былі падрыхтаваны і спецыяльныя канверты, якія выпусціла УП "Папяровая фабрыка" Дзяржзнака", з выявай Свята-Васкрасенскага сабора, герба і надпісам "Першы дзень" на беларускай і англійскай мовах. У правым верхнім куце канверта наклейвалася марка, якая гасілася спецштэмпелем.

На працягу дня гараджанамі было набыта і пагашана 138 такіх канвертаў. Можна было і проста зрабіць памятны адбітак спецштэмпеля. Такой магчымасцю скарысталіся 84 барысаўцы. Акрамя таго, актыўна набывалася новая марка. Яе за першы дзень было прадана 206 асобнікаў.

Думаецца, што багатая гісторыя нашага горада яшчэ не раз будзе ўвасоблена на паштовых знаках і значнае, але пакуль сціплае мерапрыемства, стаўшы традыцыйным, ператворыцца ў сапраўднае свята для гараджан.

***Служба інфармацыі "ГБ"***















# Канцэрт для самых смелых

*Грамадскія адносіны, якія вызначаюцца словазлучэннем "шэфскія сувязі" ў былым, "сацыялістычным" яго значэнні, - без перабольшвання можна сказаць, лепшая частка спадчыны савецкага ўкладу жыцця.*

На стадыёне сярэдняй школы № 20 апошнім часам з'явілася, на радасць дзетвары, вялікае і гладкае лядовае поле. І кожны падлетак не без гонару адкажа на пытанне цікаўнага прахожага: "Гэта нам пажарныя залілі – нашы шэфы!"

Ганарыцца шэфамі ў вучняў 20-й школы ёсць усе падставы. Бо хто ж яшчэ можа пахваліцца сяброўствам з людзьмі мужнай прафесіі выратавальнікаў, якія маюць на форменных нашыўках магічныя, прыцягальныя літары – МНС!

Зразумела цяпер, чаму сваё прафесійнае свята – Дзень выратавальніка, якое было 19 студзеня, служачыя Барысаўскага гаррайаддзела па надзвычайных сітуацыях святкавалі ў прасторнай актавай залі сярэдняй школы № 20. Святочную канцэртную праграму для шэфаў настаўнікі і вучні падрыхтавалі, відома ж, найлепшым чынам – як для самых дарагіх гасцей.

Пад гукі школьнага духавога аркестра адкрылася гэтая запамінальная ўрачыстасць. Кіраўнікі выратавальнага атрада не чыталі доўгіх справаздачных дакладаў. Было сказана толькі, што бягучых, штодзённых спраў у выратавальнікаў многа, але ўвесь ход іх падпарадкаваны выкананню адной задачы – захаваць чалавека, дапамагчы яму, абараніць яго ў любым, нават самым надзвычайным выпадку. За мінулы год Барысаўскім выратавальным атрадам зроблена больш за 1800 выездаў на пажары і больш 100 – на надзвычайныя сітуацыі. На пажарах за год выратавана жыццё 17 чалавек. Не выпадкова таму, што Барысаўскі выратавальны атрад адзіны ў вобласці, па якім аддадзены загад Міністэрства РБ па надзвычайных сітуацыях аб прысваенні служачым чарговых спецыяльных званняў на адну прыступку вышэй, чым прадугледжана займаемай пасадай. Пад гарачыя апладысменты прысутных і ўрачыстыя гукі школьнага аркестра новыя пагоны афіцэрам уручаў намеснік начальніка гаррайаддзела па надзвычайных сітуацыях У.П.Боган. Ён жа ўзнагародзіў прэміямі і граматамі лепшых работнікаў пажарнага нагляду, дыспетчарскай службы, кіраўнікоў і служачых пажарна-аварыйна-выратавальных пастоў № 11 (Барысаў) і Забашавіцкага, якія па выніках агляду-конкурсу прызнаны лепшымі падраздзяленнямі МНС Менскай вобласці.

Аднак патрэбна сказаць і аб тым, што не менш, чым поспехі барысаўскіх выратавальнікаў, уразілі далей і таленты вучняў 20-й школы. Менавіта дзіцячыя таленты і рэальныя магчымасці для іх рэалізацыі, створаныя мастацкім ухілам навучання. Без перабольшвання можна сказаць, што канцэрт-віншаванне шэфам выглядаў не проста як звычайная школьная мастацкая самадзейнасць, а як мастацтва, набліжанае да прафесіянальнага ўзроўню.

Выступілі тры добра падрыхтаваныя танцавальныя калектывы: "Крынічка", "Мазаіка" і "Шарм". Гледачоў радавалі дуэт юных піяністак Дар'і і Насці Малахоўскіх, ансамбль скрыпачоў, некалькі вакальных дуэтаў і груп. Са сцэны гучалі цымбалы, дэкламаваліся вершы. Канцэрт глядзеўся літаральна на адным дыханні.

Каб віншавальная праграма была ва ўсіх адносінах разнастайнай і прыцягальнай, для ўдзелу ў канцэрце былі запрошаны навучэнцы сярэдняй політэхнічнай школы № 19, якія прадэманстравалі цудоўныя мадэлі адзення, створаныя ўласнымі рукамі ў ходзе навучальнага працэсу.

На заканчэнне праграмы гасцей радавалі сваім выступленнем юныя выратавальнікі-гурткоўцы, якія ўдзельнічалі ў 4-м рэспубліканскім злёце пажарных і выратавальнікаў. Адстойваючы гонар Менскай вобласці, яны занялі там 2-е месца. Моманты іх конкурснай праграмы, прысвечаныя памяці пажарных Чарнобыля і ўсім тым выратавальнікам, якія аддалі свае жыццё за жыцці іншых людзей, гучалі сапраўдным гімнам людзям мужнай і небяспечнай прафесіі.

*А.Турко*



Ідзе пошук правільнага адказу

# Інтэлектуальныя гульні

*Горача было 31 студзеня ў актавай залі 8 СШ, дзе сышліся лепшыя маладыя розумы горада на чарговыя інтэлектуальныя гульні.*

Каманды павінны былі прайсці 2 туры, у кожным з іх прапаноўвалася па 12 пытанняў. На абмяркоўванне адказу камандам давалася па 1 хвіліне.

У першым туры каманды давалі адказы на пытанні па гісторыі Барысава, аб яго выбітных людзях і падзеях на нашай зямлі. Адказы былі самыя разнастайныя, часам і кур'ёзныя. Калі камандам прапанавалі назваць вядомага грамадскага дзеяча, які паходзіў з Барысава, былі названыя розныя імёны. Разам з правільным адказам – Антон Трусаў, прагучэла яшчэ некалькі версій, адна з іх была – Роза Люксембург. Пытанне пра назвы ў мінулым стагоддзі запалкавай і папяровай фабрык горада аказалася нецяжкім для каманд і было пададзена нямала слушных адказаў. Але і тут не абышлося без казусу: адна з каманд назвала запалкавую фабрыку ў XIX стагоддзі імем С.М.Кірава.

У другім туры каманды адказвалі на шырокае кола пытанняў, якое павінна было паказаць узровень інтэлектуальнага развіцця юных эрудытаў.

У выніку на першае месца выйшла каманда 15 СШ, навучэнцы політэхнічнага ліцэя былі другімі, на трэцім месцы – эрудыты з 1-ай гімназіі. Як адзначыла інструктар ГарАА Нячай Валянціна Уладзіміраўна, прыемнай нечаканасцю было размеркаванне 4 і 5 месца. Яго заваявалі каманды 10 і 9 сярэдніх школ, якія традыцыйна лічыліся нямоцнымі.

Думаецца, што кожная школа багатая на разумных хлопцаў і дзяўчат, і калі гэтаму розуму не даваць драмаць, вынікі абавязкова будуць.

*Е.Граковіч*

# Дасягненні мастацкай школы

*Навучэнцы Барысаўскай дзіцячай мастацкай школы не аднойчы выходзілі пераможцамі міжнародных конкурсаў у Нарвегіі, Галандыі, Японіі.*

Уласна кажучы, храналогія гэтых перамог, імянных выставаў таленавітых вучняў і складае гісторыю школы апошняга дзесяцігоддзя. Дырэктар Станіслаў Іванавіч Баяранка з гонарам адзначае, што адна з пераможцаў конкурсу, які праходзіў у Японіі ў 1994 годзе, - Алеся Дашчынская – ужо працуе ў школе педагогам, закончыўшы мастацкае вучылішча імя Глебава.

Ідзе час, сталеюць і набіраюць майстэрства новыя навучэнцы. Зорачкі іх таленту загараюцца паступова, але пасля ўспыхваюць адразу яркім святлом.

Мінуўшы год стаў па-сапраўднаму зорным для 12-гадовай Дашы Мельнікавай. Яна атрымала трэцяе месца на 4-ым рэспубліканскім конкурсе дзіцячых мастацкіх работ. Яе ж карціне было прысуджана другое месца на рэспубліканскім конкурсе – пленэры. Поспехі Дашы Мельнікавай аказаліся ўражлівымі не толькі для мастацкага асяроддзя. Надаўна дзяўчынка стала стыпендыятам прэзідэнцкага фонду "Таленавітыя дзеці".

Зараз у школьным фае разгорнута імянная выстава вучаніцы 3-га класа Дашы Мельнікавай. Каля трох дзесяткаў работ радуюць вока багаццем фарбаў, разнастайнасцю тэм і жанраў, добрай тэхнікай выканання, а яшчэ – нечым няўлоўным, вельмі хвалючым, што пад сілу стварыць і перадаць толькі таленту.



*Работа Дашы Мельнікавай*

Па-сапраўднаму шырокую дарогу ў мастацтва адкрылі для сябе і многія іншыя навучэнцы мастацкай школы. Сямёра барысаўцаў удзельнічалі летась у рэспубліканскім конкурсе плаката "Абаронім правы дзяцей". Чацвёра з іх – Яўген Шавейка, Алёна Шквора, Рыта Малышчыц і Соф'я Эдэльман – былі ўзнагароджаны дыпломамі 3-й ступені. Яшчэ трое ўдзельнікаў адзначаны ганаровымі граматамі конкурсу.

Прымала ўдзел у рэспубліканскім мастацкім конкурсе мінулага года яшчэ адна навучэнка Ірына Макарская, якая таксама ўзнагароджана дыпломам.

Радасцю ў сэрцах педагогаў і вучняў мастацкай школы адгукнуліся нядаўна адгалоскі пазалеташняга конкурсу, аб'яўленага Міністэрствам культуры РБ. У школу прыйшло пісьмо, у якім адміністрацыя Беларускага дзяржаўнага інстытута праблем культуры віншуе педагогаў, а таксама вучняў Марыну Гарахавік і Юлію Сергіенка з перамогай у рэспубліканскім конкурсе дзіцячага малюнка і камп'ютарнай графікі "Карнавал казак".

Умовы гэтага конкурсу былі зусім няпростыя. Удзельнікам належала прыдумаць казку, праілюстраваць яе і перадаць усё гэта праз Інтэрнэт у аргкамітэт. Але ж складанасці – не перашкода для таленавітых і натхнёных! З сямі работ, прызнаных на рэспубліканскім конкурсе лепшымі – дзве належаць навучэнкам Барысаўскай дзіцячай мастацкай школы.

На фоне ўсіх гэтых вельмі прыемных навін школу ўсхвалявала яшчэ адна не менш важная – хаця і бытавая. Справа ў тым, што размяшчаецца школа ўсё яшчэ ў падвале, нягледзячы на доўгую гісторыю звяртання дырэктара ў самыя розныя адміністрацыйныя інстанцыі з просьбай аб выдзяленні іншага памяшкання. Пасля пісьмаў да прэзідэнта і прэм'ер – міністра справа, нарэшце, зрушылася з месца. Гарвыканкам якраз зараз прымае рашэнне аб выдзяленні мастацкай школе памяшкання былога дзіцячага садка № 27.

Адным словам, школа жыве прадчуваннем наваселля ў светлым і прасторным доме, аб якім і педагогі, і навучэнцы марылі многія гады. Творчыя планы ў сувязі з гэтым маркуецца ажыццяўляць з асаблівым натхненнем. Падрыхтоўка да вялікай выставы (каля сотні вучнёўскіх работ), прысвечанай 900-годдзю Барысава, якая адбудзецца ў сакавіку гэтага года, ідзе поўным ходам.

*А.Турко*








Выступае ансамбль Раўніца з Барысава (зверху)

Адкрыццё фестывалю (злева)

Класічныя матывы на галаканцэрце (справа)

Выступаюць барысаўцы (знізу)



# Запаветны прыстанак прыгажосці

*Міжрэгіянальны фестываль дзіцячай харэаграфіі "Барысаўскі прыстанак", прысвечаны 900-годдзю Барысава, у якім бралі ўдзел мастацкія калектывы Беларусі, Латвіі, Расіі, Украіны і Эстоніі, адкрыўся ў гарадскім Палацы культуры 24-га студзеня. На працягу чатырох дзён праходзілі канцэрты ўдзельнікаў фестывалю ў Барысаве і Менску.*

Галоўным прызам фестывалю – Крыштальным лебедзем – узнагароджаны барысаўскі ансамбль танца "Раўніца". Мастацкія кіраўнікі – Наталля Русакевіч і Наталля Буйко.

Дзіцячы харэаграфічны фестываль, які налічвае цяпер усяго толькі двухгадовую гісторыю, без перабольшвання, з'явіўся знакавай падзеяй у жыцці нашага горада. Справа ў тым, што менавіта ён з'явіўся першым звяном у шэрагу святочных мерапрыемстваў, прысвечаных 900-годдзю Барысава. Як сказаў пад час цырымоніі адкрыцця фестывалю старшыня гарвыканкама В.І.Бургун, ён бачыць добрую прыкмету ў тым, што юбілейны год горада адкрываецца такім цудоўным святам мастацтва, гармоніі, таленту і дзяцінства.

Гісторыя харэаграфіі ў нашым горадзе даволі працяглая. У старых архівах спакваля ўпамінаецца аб харэаграфічных пастаноўках, якія наладжваліся ў Барысаве больш стагоддзя таму "Вольным пажарным таварыствам" падчас гарадскіх гулянняў. І па ўсім бачна, што фестываль "Барысаўскі прыстанак" заклікаены прадоўжыць і ўзбагаціць гэтую гісторыю на многія гады. Па-першае, у параўнанні з мінулагоднім значна пашырылася геаграфія ўдзелу танцавальных калектываў: прыехалі ансамблі з Рыгі, Петразаводска, Смаленска, Растова-на-Доне, Таліна. Па-другое, спецыялісты адзначылі, што ўзрос у цэлым і мастацкі ўзровень удзельнікаў фестывалю.

Вядома ж, не выпадкова для правядзення такога значнага міжнароднага форуму дзіцячай харэаграфіі быў выбраны Барысаў. Як адзначыў старшыня аргкамітэта фестывалю – загадчык гарадскога аддзела адукацыі А.А.Бойка, у нашым горадзе ёсць шмат энтузіястаў і адначасова выдатных прафесіяналаў у галіне харэаграфіі, якія змаглі шырока развіць і ўкараніць у дзіцячае асяроддзе гэтае цудоўнае мастацтва. Дзесяць дзіцячых танцавальных ансамбляў з Барысава, якія паспяхова ўдзельнічалі ў фестывалі, - яскравае таму пацвярджэнне. Не бракуе ў нашым горадзе таксама энтузіястаў-арганізатараў, якія прыклалі шматлікія намаганні да таго, каб фестываль адбыўся і прайшоў на вартым міжнароднага форуму ўзроўні.

Ганаровыя госці і адначасова члены журы фестывалю таксама прадстаўлялі дастаткова высокія мастацкія і грамадскія колы. Сярод іх заслужаная артыстка Узбекскай ССР, старшыня камісіі па культуры, спорту, турызму і рэлігіі пры палітсавеце партыі "Адзінства" Э.М.Азімава (Масква), дацэнт Расійскай акадэміі тэатральнага мастацтва А.А.Шчогалева (Масква), прэзідэнт дзіцячага фонду "Адраджэнне" В.К.Сакалоў (Масква), дырэктар Беларускага рэспубліканскага цэнтра мастацкай творчасці вучнёўскай моладзі "Юнацтва" В.П.Шымчонак і інш.

Вельмі прыемна, што кампетэнтнае журы высока ацаніла ўзровень дзіцячага харэаграфічнага мастацтва ў Барысаве. Дзесяць мясцовых ансамбляў, сярод якіх "Журавінка", "Дзяцінства", "Шарм", "Грацыя", "Крынічка", не пакінулі фестывальную сцэну без узнагарод па самых розных намінацыях. Ну, а зладжаны, рознапланавы, яркі ансамбль "Раўніца" заслужана заставаўся на працягу фестывальных дзён на вяршыні творчага натхнення і поспеху.

Адным з асноўных здабыткаў і вынікаў фестывалю з'явілася тое, што ім засталіся задаволены замежныя ўдзельнікі. З мастацкім кіраўніком рыжскага ансамбля танца "Задорынка" Марыяй Керпе мы пагутарылі перад пачаткам заключнага гала-канцэрта, які адбыўся на сцэне гарадскога Палаца культуры ў нядзелю, 27 студзеня.

**- "Задорынка" – зусім па-руску. Нават дзіўна крыху, што гэта латышскі ансамбль.**

- Сапраўды па-руску. Бо ў Латвіі любілі і любяць рускія і іншыя славянскія танцы. А ў нашым ансамблі ёсць як прадстаўнікі рускай дыяспары, так і латышы. Танцуюць жа ўсе з аднолькавым натхненнем, з задорынкай.

**- Што азначае для вас удзел у фестывалі "Барысаўскі прыстанак"? Якія творчыя задачы перад сабой ставілі і ці ўдалося іх ажыццявіць?**

- Для мяне, як прафесіянала, вельмі прыцягальны высокі ўзровень удзельнікаў гэтага фестывалю. Даўно ўжо ведала пра існаванне цудоўнага ансамбля "Раўніца" і вельмі хацелася выступіць з ім на адной сцэне, прыглядзецца, параўнаць. А яшчэ начулася ад калег, што ёсць такі гасцінны горад у Беларусі, дзе жывуць добрыя, гасцінныя людзі, якія могуць цудоўна ўсё арганізаваць. Цяпер з упэўненасцю магу сказаць, што ўсе нашы чаканні апраўдаліся. "Раўніца" – цудоўны, па-сапраўднаму прафесіянальны ансамбль. Цікавую харэаграфію прадэманстравалі таксама ўдзельнікі з іншых гарадоў. І мы таксама, лічу, выглядалі нядрэнна побач з такімі таленавітымі калектывамі.

**- Значыць, Вы лічыце, што Беларусь і, у прыватнасці, Барысаў, утрымліваюць авангардныя пазіцыі ў развіцці харэаграфічнага мастацтва?**

- Менавіта так! Я заўсёды з вялікай павагай адносілася да харэаграфічнага мастацтва Беларусі. Школа беларускага танца – гэта адметная, арыгінальная і вельмі моцная школа. Я ехала сюды перш за ўсё для таго, каб усё гэта пабачыць і павучыцца. Наш ансамбль удзельнічае ў фестывалях не першы раз. Адлік вядзём ад мастацкага фестывалю "Адзінства Расіі", дзе мы атрымалі "Гран-пры", таму параўноўваць ёсць з чым.

**- З якім настроем, з якімі планамі ад'язджаеце з Барысава?**

- Са светлым настроем і лёгкім пачуццём настальгіі. Ну, вельмі ж было цудоўна! І нашы новыя планы зарадзіліся менавіта тут – на "Барысаўскім прыстанку". Мы літаральна ўчора атрымалі запрашэнні на фестывалі ў Санкт-Пецярбург і ў Растоў-на-Доне. А для дзяцей – удзельнікаў ансамбля – паездкі, выступленні, знаёмствы з равеснікамі – гэта найвялікшая асалода, сэнс і стымул усяго на шага творчага жыцця. Праўда, адзінай праблемай заўсёды застаецца матэрыяльная. На бацькоўскія грошы дзеці шмат не наездзяцца. Але калі я пагаварыла з іншымі прыезджымі ўдзельнікамі фестывалю, то высветлілася, што і ўсе астатнія таксама прыехалі на ўласныя грошы. У сувязі з гэтым я хачу выказаць шчырую падзяку супрацоўнікам Беларускага пасольства ў Латвіі, якія бясплатна адкрылі нам візы, кошт якіх даражэйшы, чым дарога. Менавіта дзякуючы такім вось добрым, інтэлігентным, натхнёным людзям магчымы падобныя незабыўныя святы прыгажосці і мастацтва, удзельнікамі якога нам пашчасціла быць у Барысаве. Да наступнага фестывалю!

*А.Турко*





Выступаюць барысаўцы (зверху)

Сучасныя матывы ў танцы (знізу)





Іспанскі танец (зверху)

У віхры танца (справа)

Выступленне аднага з калектываў на адкрыцці фестывалю (знізу)







*Экспанаты этнаграфічнага музея "Спадчына" СШ № 8*

# Школьныя музеі – астраўкі нашай спадчыны

*Музеі ў школах – гэта своеасаблівыя цэнтры культуры, якія адыгрываюць важную ролю ў выхаванні школьнікаў. Асноўнай ідэяй выхавання вучняў у музеях у апошнія гады стала ідэя адраджэння гісторыі, культуры, фарміравання нацыянальнай самасвядомасці. Змест адукацыйнай выхаваўчай работы ў іх грунтуецца на беларускіх нацыянальных крыніцах духоўнага адраджэння, культурна-гістарычнай спадчыне, народных традыцыях, абрадах, а таксама патрыятычным выхаванні і памяці аб героях другой сусветнай вайны.*

Прыкметна актывізавалася работа школьных музеяў напярэдадні 900-годдзя нашага горада. Маючы шырокую сетку школьных музеяў, Барысаў мог бы з правінцыяльнага гарадка ператварыцца ў культурны цэнтр, што адпаведным чынам паўплывала б на яго развіцце, на пашырэнне культурных і эканамічных кантактаў. Ды і сам горад мог бы набыць выгляд, які адпавядае яго гістарычным асаблівасцям.

У школах Барысава працуюць 9 музеяў: 4 музеі баявой славы (СШ №№ 7, 9, 17, 18), 2 краязнаўчых музеі (СШ №№ 8, 23), 3 этнаграфічныя музеі (СШ №№ 8, 17, гімназія № 2). Два музеі маюць ганаровыя званні "народны" (у Менскай вобласці іх усяго 9): у СШ № 17 – музей баявой славы (прысвоена ў 1999 годзе), у СШ № 8 – этнаграфічны музей "Спадчына" (прысвоена ў 1998 годзе).

Кіраўніцтва і кантроль за дзейнасцю музеяў ажыццяўляе гарадскі аддзел адукацыі, а метадычную дапамогу аказвае гарадскі цэнтр юных турыстаў (дырэктар Нікіценка М.Р.).

Неаднаразова музеі школ горада выходзілі пераможцамі абласных, рэспубліканскіх аглядаў – конкурсаў (СШ № 8, 17).

Трэба адзначыць, што ў сённяшні нялёгкі час у горадзе адкрываюцца новыя музеі. Так, у траўні 2000 года ў СШ № 7 (дырэктар Цімохава Н.Д.) быў адкрыты музей 6-ай гвардзейскай стралковай Ровенскай ордэнаў Леніна, Чырвонага сцяга, Суворава дывізіі (кіраўнік Іваноў І.В.).

Экспазіцыя музея поўнасцю адпавядае сучасным патрабаванням.

Хочацца адзначыць музеі СШ № 17, у якой, дзякуючы намаганням дырэктара школы Маскалёвай Л.М. у 1999 годзе была праведзена поўная рэканструкцыя музея баявой славы, што дазволіла прысвоіць яму званне "народны" (кіраўнік музея Холіна Т.А.). У тым жа годзе быў адкрыты этнаграфічны музей "Пад стрэхамі прадзедаў" (кіраўнік Крэнь С.М.), які ў 2001 годзе стаў пераможцам абласнога і рэспубліканскага конкурсаў.

Заслугоўвае увагі і этнаграфічны музей СШ № 8 "Спадчына" (дырэктар Кранцэвіч З.С.). У музеі сабраны багацейшы матэрыял, вельмі багатая калекцыя ручнікоў, прадметаў хатняга быту.

Унікальныя экспанаты знаходзяцца ў музеі палка Нармандыя-Нёман у СШ № 9 (дырэктар Кавец С.М.). музей працуе з 1968 года. Варта адзначыць добрую работу кіраўніка музея Чыркун Я.В., якая многа зрабіла і робіць для захавання экспанатаў і іх папулярызацыі.

У 1993 годзе ў СШ № 23 адкрыты этнаграфічны музей "Спадчына" (дырэктар Супрановіч Т.Ф.). Кіраўнік музея Балаболава Н.Я. праводзіць вялікую работу па прапагандзе гісторыі і культуры роднага краю.

Музей баявой славы "Подзвіг" у СШ № 18 (дырэктар Белы І.Ю.) адкрыты ў 1968 годзе. У ім дэталёва расказваецца пра падпольны рух у Барысаве ў час нямецкай акупацыі. Вялікі ўклад у развіццё музея ўносіць Кондзік Н.Г.

У гімназіі № 2 (дырэктар Васькоўскі П.Р.) у 1992 годзе адкрыта этнаграфічная студыя – музей мастацтваў. У музеі выстаўлена 179 экспанатаў, вядзецца экскурсійная работа.

На базе музеяў школ горада рэгулярна праводзяцца ўрокі гісторыі, геаграфіі, беларускай мовы і літаратуры, калядкі, вечары-сустрэчы, факультатыўныя заняткі, экскурсіі, працуюць фальклорныя гурты.

Школьны музей – не самамэта, а вынік карпатлівай працы педагогаў і вучняў, а гэта патрабуе энтузіязму, ведаў, творчасці. Вельмі важна, каб дзейнасць па стварэнню музеяў не спынялася, а пашыралася, каб эфектыўнасць іх уздзеяння на свядомасць і пачуцці падрастаючага пакалення павялічвалася.

***І.Захарчанка, метадыст ГЦЮТ***



"Фея"

# Як нараджаецца казка

17-гадовай Жэні можа пазайздросціць кожная дзяўчына. З дапамогай сваёй мамы, Іны Зубовіч, Жэня можа апынуцца ў любой казцы. Акрамя таго, што спадарыня Іна хутка і дасканала можа пашыць любую рэч, яна ўтварае проста фантастычныя ўбранні з матэрыялаў, якія выкінуты літаральна на сметнік. Убор "Снежнай каралевы"Іна зрабіла з непатрэбнага ўжо нікому цэлафану. А чароўная "Фея" нарадзілася з упаковачнай фальгі ад соку. Капялюш да вечэрняй сукенкі створаны з донцаў пластыкавых бутэлек, а касцюм медсястры трэцяга тысячагоддзя - з адыходаў упакоўкі для таблетак. Адходы нітак, ізаляцыйнага матэрыялу, тэхнічнага кардону, касцяшкі ад канторскіх лічыльнікоў – усё, на што кладзецца вока таленавітай жанчыны, можа ператварыцца ў казачнае, прытым якаснае і вельмі прыгожае ўбранне. У рэчаіснасці, рэчы, створаныя Інай Зубовіч, выглядаюць яшчэ больш прывабна, чым на здымках. Стварэнне іх патрабуе шмат часу і цярплівасці. А час гэты – толькі пасля асноўнай працы на "БАТЭ", па вечарах і выходных днях. Тыдні, месяцы карпатлівай працы…



Іна Зубовіч з дачкой

У чым жа першапрычына такога захаплення? У тым, што дачка, таксама таленавітая дзяўчынка, якая вучыцца шыць у вучэльні № 205, займаецца на курсах манекеншчыц пры ГПК? Не, гэта ўжо следства. Захапленне мамы вызначыла і захапленні Жэні. Яшчэ раней, працуючы ў дзіцячым садку, Іна Зубовіч стварала мноства святочных касцюмаў для дзетак, а сваю "хатнюю" творчасць распачала, калі Жэня вучылася ў школе.

Талент, патрэба творчай натуры выразіць сябе, упрыгожыць навакольны свет - у гэтым, думаецца, вытокі дзейнасці Іны Зубовіч. "Увесь час марыла працаваць для тэатра",- кажа спадарыня Іна. Ёсць думкі і зараз перабрацца туды, дзе яе талент знайшоў бы паўнавартаснае прызнанне, а дачка - больш шырокія магчымасці для адукацыі і развіцця здольнасцей.

Але пакуль ёсць спадзяванні, што і ў родным горадзе можна нешта зрабіць.У дадзены час яна прымае ўдзел у стварэнні тэатра моды, які хутка распачне сваю дзейнасць пад кіраўніцтвам выкладчыц курсаў манекеншчыц Варонінай Алёны Ягораўны. На паспяховую і актыўную дзейнасць тэатра спадзяецца Іна Зубовіч. Але не толькі энтузіязмам і талентам вызначаецца поспех новага пачынання. Яму патрэбна падтрымка, якой не стае. Гэтак жа як і ініцыятыве стварэння ў Барысаве тэатра драматычнага.

Калі ж наш Барысаў стане сапраўдным тэатральным горадам? Як разварушыць атмасферу застою, абыякавасці і правінцыйнай ляноты? У пошуках свежага паветра з'язджаюць таленты, і што асабліва сумна, таленавітая моладзь.

***Е.Граковіч***

# Барысаў у 30-х гадах XX стагоддзя

У сярэдзіне 30-х гадоў адзіным відам гарадскога транспарту былі рамізнікі. Яны вазілі сваіх седакоў у лёгкіх рэсорных калясках з адкідным верхам. Коні былі ўпрыгожаны збруяй, падкаваныя іх капыты цокалі па брукаванках, ствараючы на гарадскіх вуліцах своеасаблівую атмасферу. Грузы перавозілі ламавікі, вазкі якіх уяўлялі сабой простыя безрэсорныя платформы на гумавым хаду. Коні ў іх былі буйныя, моцныя, рухаліся павольна. Напрыканцы 30-х гадоў рамізнікі зніклі, а ламавікоў стала значна менш, бо ў некаторых установах ужо з'явіліся грузавыя аўтамашыны.

На перакрыжаванні вуліц Маскоўскай і Андрэеўскай (палка Нармандыя-Нёман) размяшчалася пажарная частка з высокай каланчой. На каланчы заўжды дзяжурыў пажарны. Па яго сігналу пажарныя вазкі (пазней і аўтамашыны) выязджалі з камандай да месца пажару. Пры адсутнасці тэлефоннай сувязі назіранне з каланчы было адзіным спосабам выяўлення пажару. Пазней каланча была знесена, а памяшканне пажарнай часткі з гаражом для аўтамашын захавалася.

На вуліцы Андрэеўскай за пажарнай часткай стаяла вадакачка, якая прадавала насельніцтву пітную ваду. Вядро вады каштавала немалыя грошы, таму вадой карысталіся ашчадна. Вадакачка ўяўляла сабой драўляную пабудову, з якой вонкі выходзіла жалезная труба. За шкляным акенцам сядзеў чалавек, яму падавалі грошы ці папяровы талон, ён адкрываў кран, і з трубы ў падстаўленае вядро цякла вада.

Вадакачка забяспечвала вадой толькі невялікую частку цэнтра горада. Астатняе насельніцтва карысталася вадой са студняў, якія ў той час былі даволі глыбокія. Вада ў іх была чыстая і смачная. Але паступова, у сувязі з прамысловым ростам горада, вада ў студнях пачала губляць сваю высокую якасць і адпавядаць санітарным нормам.

На рагу вуліц Андрэеўскай і Менскай з таго боку, дзе месціцца завод гумавых вырабаў, стаяла аграмадная афішная тумба, заўсёды заклееная афішамі. Часта можна было пабачыць, як да яе падыходзіць чалавек, пэцкае пэндзалем з клеем па старых афішах і прыляпляе новыя.

Своеасаблівым і тыповым для павятовых гарадоў заходняй часткі Расійскай імперыі заставаўся ў гэтыя гады этнічны састаў насельніцтва Барысава. Невялікую, але выдатную яго частку складала старая інтэлігенцыя, пераважна рускамоўная. Гэта былі старыя настаўнікі, урачы, служачыя розных устаноў. Яны адрозніваліся сваімі старажытнымі манерамі і мелі пэўны уплыў на іншае насельніцтва горада. Каля паловы насельніцтва складалі яўрэі, якія працавалі пераважна ў гандлёва-нарыхтоўчай сферы, але сярод яўрэйскага насельніцтва было нямала і краўцоў, кандытараў, пекараў, шаўцоў, былі рамізнікі і кавалі.

Астатняе насельніцтва працавала на нешматлікіх прамысловых і перапрацоўчых прадпрыемствах, у камунальных службах, на будаўніцтве дамоў і дарог, нарыхтоўвала і сплаўляла лес і інш.

Часта ў горад прыязджалі цыгане, станавіліся табарам. Мужчыны займаліся рамёствамі: працавалі меднікамі, бляхарамі, кавалямі; жанчыны, як звычайна, хадзілі па вуліцах і перапраймалі прахожых з прапановамі пагадаць.

Рэпрэсіі 1937-38 гадоў значна змянілі этнічны і сацыяльны склад насельніцтва горада.

*Г.Герасімёнак*

# Кайназой

Сваю вандроўку па геалагічным часе мы пачалі са стварэння матулі – Зямлі і вось, нарэшце, наблізіліся да той эры, у якую з'явіўся на планеце чалавек і працягвае жыць. Але пакуль яшчэ да паяўлення гэтай істоты, дзейнасць якой вялікі У.І.Вярнадскі лічыў магутным геалагічным фактарам, застаецца даволі многа часу. Кайназойская (новая) эра пачалася 60 млн. гадоў таму і падзяляецца на тры перыяды: палеаген, неаген і антрапаген. Апошні, антрапагенавы перыяд, атрымаў сваю назву дзякуючы з'яўленню ў ім чалавека, а палеаген і неаген - гэта як бы падрыхтоўчы перыяд да гэтай падзеі. Яшчэ не прышоў той, хто пачне заваёўваць і знішчаць усё без разбору, і жыццё на планеце цячэ спакойна, павольна і гарманічна.

На мяжы мезазою і кайназою на тэрыторыі Беларусі адбылося агульнае ўзняцце зямной кары і практычна ўсюды панаваў кантынентальны рэжым. Дробныя марскія рэгрэсіі назіраліся толькі на поўдні рэспублікі і ў паўночна-заходніх раёнах. Тэрыторыя Барысаўшчыны на працягу ўсёй гісторыі кайназоя заставалася сушай.

У палеагене на нашай зямлі панавалі тропікі. Раслі алеандры, міртавыя, лясы з лаўра, дуба, вечназялёнага каштана. Цеплакроўныя млекакормячыя жывёлы, якія змянілі рэзка вымерлых дыназаўраў, яшчэ не такія, як сучасныя, але ўжо іх нагадваюць. Сярод тыповых прадстаўнікоў палеагена мы бачым лямура, прымітыўных сабакападобных драпежнікаў, старажытных насарогаў, шаблязубых вялізных кошак і капытных траваядных жывёл, прародзічаў нашых коней, касуль, зуброў і інш. А вось птушкі ўжо больш падобныя на сучасных, іх эвалюцыя пачалася раней, пакуль яшчэ нішу млекакормячых займалі дыназаўры.

У неагене пачынаецца паступовае пахаладанне, якое прыводзіць да вымірання трапічных і субтрапічных лясоў. Яны змяняюцца хваёвымі з выспачкамі платана, эўкаліпта, лаўра. Акрамя елкі і сасны ў хваёвых лясах растуць секвойя, кіпарыс. Але чым бліжэй да антрапагена, тым больш халодным робіцца клімат і гэтыя лясы змяняюцца сапраўднай тайгой.

Гэтак жа паступова мяняецца і жывёльны свет. З'яўляюцца алені, з якіх самым дзіўным быў мегалоцерас з вялізнымі рагамі, магутныя быкі, спрытныя газелі, казярогі. Пячорны мядзведзь ужо апрануты ў цёплую скуру, а куніцы, барсукі, выдры і тхары мала адрозніваюцца ад сучасных.

Блізіцца час грандыёзных абледзяненняў, магутных мамантаў і пачатак панавання на планеце Homo sapiens.

*Т.Шміт*



*Шаблязубая кошка –махайрод (зверху), адзін з буйнейшых старажытных драпежнікаў.*



*Старажытны алень – мегалацерас (справа)*

*Шкілет пячорнага мядзведзя (знізу)*



# Барсук



Барсук – забаўны, нетаропкі звер - вядомы ўсім, але мала каму пашчасціла сустрэць яго ў лесе. Пра жыццё яго мы таксама ведаем няшмат.

Барсук - даволі блізкі сваяк куніцы, норкі, выдры, ласкі і іншых куніцыных.

Але ў адрозненне ад пералічаных вышэй вяртлявых і спрытных асоб, якія не робяць уласных нор і карыстаюцца выпадковымі прыбежышчамі, барсук – звер сур'ёзны і гаспадарлівы. Ён будуе складаныя палацы-норы з некалькімі выхадамі і камерамі – гнёздамі. Любіць жыць у змешаным ці хваёвым лесе, дзе нару звычайна размяшчае па схіле яра, ля ручая ці возера, ды так, каб сама нара была вырыта ў сухім пяску, а зверху ляжаў моцны гліністы водатрывалы пласт глебы. Самец і самка маюць асобныя пакоі, высланыя пасцілкай з сухой травы, якую яны часта мяняюць. Ахайнасцю барсука любіць карыстацца хітрая ліса, якая ўлазіць у барсуковую нару і гадзіць там. Пасля гэтага барсук пакідае сваё жытло, і ў ім пасяляецца нахабная захопніца.

Памеры барсука вагаюцца ў межах 60-90 см, хвост мае даўжыню 12-24 см. Афарбоўка спіны і бакоў сярэбрана-шэрая, унізе амаль чорная. Па баках галавы, ад носа да вушэй цягнуцца цёмныя палосы. На пярэдніх лапах доўгія пальцы і вялікія, закручаныя кіпцюры. След задняй ступні барсука нагадвае след босай ножкі дзіцяці.

Барсук выходзіць на паляванне ў прыцемках і вяртаецца ў нару раніцай.

Гэта сапраўды ўсяядная жывёла. Палёўкі, мышы, ягады, грыбы, яйкі птушак, жукі, арэхі, жалуды, карэньчыкі – усё ідзе ў справу. Асабліва любіць барсук ласавацца змеямі, якіх з'ядае не разбіраючы - ядавітая змяя ці не.

Вясной барсука можна сустрэць на коннай дарозе: ён выходзіць збіраць з конскага гною жукоў-гнаевікоў.Дзетак у барсукоў родзіцца ад аднаго да шасці ў адзін памёт, але звычайна двое. Да восені барсук нагульвае вялікі запас тлушчу, з якім кладзецца ў нару зімаваць.

Барсук – даволі безабаронная жывёла, на якую здаўна палюе чалавек. Тлушч барсука лічыцца лекавым і дапамагае пры лёгачных хваробах. З поўсці звера чалавек прыстасаваўся рабіць якасныя пэндзлі. Усё менш застаецца спакойных месцаў, дзе можа жыць нетаропкі барсук. Нават на тэрыторыі Бярэзінскага запаведніка знойдзена толькі 10 паселішч гэтага цікавага драпежніка. Як рэдкая жывёла, якой патрэбна абарона, барсук унесены ў Чырвоную кнігу Беларусі.

*Е.Граковіч*

# Люты

Люты - другі месяц года і апошні зімы. Надвор'е з вялікімі маразамі і мяцеліцамі адпавядае сэнсу назвы месяца - злы, суровы. Ад лацінскай назвы абраду язычніцкага свята ачышчэння паходзіць яго сучасная руская назва февраль. Налічвае 28 дзён, у высакосным годзе 29. У сярэдзіне лютага даўжыня дня на поўначы Беларусі павялічваецца на 2,5, на поўдні - больш як на 2 гадзіны. Вышыня Сонца над гарызонтам у поўдзень 23,3°. Сярэдняя тэмпература паветра ў лютым -3,5 (паўднёвы захад) і - 7,5°С (паўночны ўсход). Абсалютны мінімум -44°С быў адзначаны ў вёсцы Лужасна Віцебскай вобласці ў 1956 г. Паўтаральнасць моцных маразоў меншая, чым у студзені, тэмпература ніжэй -30°С на паўднёвым захадзе назіраецца раз у 20 гадоў, на паўночным усходзе - раз у 4 гады. Адбываецца пераход тэмпературы паветра праз -5°С у бок павышэння, вільготных дзён 12-18. У сярэднім па рэспубліцы 3-8 дзён з мяцеліцай, пахмурных – 15-17, ясных - 2. Норма ападкаў – 30-40мм, у асобныя гады іх можа выпасці і да 120мм (Гомель, 1940г.) ці ўсяго 2мм (Гарадня, 1976). Звычайна павялічваецца таўшчыня снегавога покрыву, глыбіня прамярзання глебы. У канцы лютага таўшчыня лёду на вялікіх рэках і азёрах дасягае 35-60 см.

**Студзеню - маразы, лютаму - мяцеліцы.**

**Многа снегу - многа хлеба, многа вады - многа травы.**

**Сабака качаецца - на адлігу, снег.**

**Вароны каркаюць чарадой - на мароз (летам - на непагадзь),**

**Лес шуміць - чакай адлігі.**

**Снег наліпае на дрэвы - будзе цёпла.**

**У лютым дажджы - мокрыя вясна і лета.**

*М.Пучыла*

# Месяц холаду і голаду

Люты - месяц холаду і голаду для жывёл і птушак. Мала корму. Глыбокі снег у лесе і на полі, ледзяная скарынка шурпаку перашкаджаюць ласям, зайцам, лісам здабываць ежу. У гэты час пачынаецца гон у ваўкоў, лісоў, зайцоў. Ліняюць зубры. У мядзведзяў, адзінкі якіх захаваліся ў наш час в ўсходняй частцы Беларусі, нараджаюцца мядзведзяняты. У дні з добрым надвор'ем чутны спеў сініц, гіля, папаўзня. У канцы месяца адлятаюць на поўнач драпежнікі-канюкі, за імі павольна перасоўваюцца чароды чачотак, снегіроў, амялушак, рушаць вандроўнікі-крыжадзюбы, паўночныя совы. На многіх дрэвах набухаюць пупышкі, каля ствалоў з'яўляюцца прataліны. Вясна змагаецца з зімой.

Вельмі важна ў такі час падкормка лясных жыхароў: аленяў, казуль, дзікоў, зайцоў і інш. На гэтыя мэты ідзе сена, зерне, буракі, бульба. З птушак найбольш галадаюць зімой шэрыя курапаткі, асабліва пры глыбокім снезе і моцных маразах, бо яны кормяцца толькі на зямлі. Для іх добрая падтрымка проса, ячмень, авес, сянная пацяруха. Бараўую дзічыну падкормліваюць рабінай, ставяць снапы аўса, каля жылля вешаюць разнастайныя кармушкі, куды кладуць ягады, насенне, крупы, хлеб, несалёнае сала...

Працягла і звонка ў сонечныдзень спявае вялікая сініца, прыбраная ў чорны гальштучак на грудцы. Не адстае ад яе і аўсянка. Пачынаюцца шлюбныя гульні ў варон,галак, сарок. Яны ў гэты час паводзяць сябе вельмі актыўна. Рыхтуюцца да вясны і лясныя птушкі: глушцы, цецерукі. У канцы зімы, адчуваючы патрэбу ў вітамінах, пачынаюць есці яловыя шышкі вавёркі, пакрываючы снег пад дрэвамі лускавіннем. Ляцяць крылатае яловае насенне па ўсім лесе - другая палавіна лютага пара яго высеву. Бурштынавыя доўгія шышкі тапырацца, раскрываюць лускавінкі і выкідваюць зярняткі.

*М.Пучыла*



# Шляхі Барысаўшчыны

*Дарогі патрэбны для злучэння паміж сабою розных пасяленняў. Але і самі населеныя пункты і іх лёс моцна залежаць ад шляхоў. Гэта добра бачна з гісторыі нашага краю. Тут узнікалі і бясследна знікалі разам са зменаю шляхоў зносінаў вялікія пасяленні і гарады.*

У старажытнасці засяленне нашага краю адбывалася па рэках. Яны ж на працягу тысячагоддзяў заставаліся і асноўнымі шляхамі для вандраванняў і перавозак тавараў. Вядома, што найбольш значны з тутэйшых гарадоў VI – VIII стагоддзяў знаходзіўся каля рэчкі Цна ля сучасных Дзедзелавічаў і меў большую плошчу, чым Барысаў у сярэднявеччы. Аднак ішоў час, змяняліся шляхі. Лясы і ўзвышшы тых месц не спрыялі развіццю дарог. У выніку горад знік... Нават яго назва не захавалася да нашага часу.

Сапраўдная рэвалюцыя ў развіцці тутэйшых дарог адбылася ў другой палове XIV – пачатку XV стагоддзя. Менавіта ў гэты час упершыню будуюцца прамыя шляхі на Менск, на Лагойск. Дарогі пачалі рабіць у такім выглядзе, у якім мы звыкліся іх успрымаць зараз. З тых часоў на Барысаўшчыне прынцыпова змянілася толькі пакрыццё дарог і, хіба што, з'явілася яшчэ аўтамагістраль.

Працягвалася будаўніцтва асобных новых дарог у часы Вялікага Княства Літоўскага і пасля Вітаўта (пра адну з такіх дарог паміж Зембінам і Бабром, якая была ўзведзена ў 1765 годзе, наша газета пісала ў № 1(5) за 1999 г.). Большасць тых шляхоў, як і шляхоў часоў Вітаўта, без прынцыповых змен дайшлі і выкарыстоўваліся амаль да сярэдзіны XX стагоддзя.

Істотнае ўдасканаленне тутэйшых шляхоў мела месца на пачатку XX стагоддзя. У 1908 годзе на Барысаўшчыне шасейным лічыўся толькі ўчастак шляху з Барысава праз маёнтак у Старабарысаве ў накірунку Зембіна. Працягласць яго брукаванай часткі на той момант складала ўсяго 7,5 кіламетраў. Дарога з Менску на Воршу была грунтоваю і лічылася транспартнай дарогай другога разраду. На працягу канца першага – пачатку другога дзесяцігоддзя XX стагоддзя актыўна вядзецца пакрыццё брукам тутэйшых дарог і асобных іх участкаў. Так з 1909 па 1911 год на шляху з Зембіна на Мсціж брукаванне дарогі вялося адначасова на шасці ўчастках.

У гэты ж час вяліся работы па зняццю стромкага спуску і пакрыццё на ім шляху брукам у вёсцы Ніўкі, будоўля маста з машчонай грэбляй праз Сху каля Барысава. Тады ж былі пакрыты брукам участкі ў Гары і Глівіне па шляху Барысаў – Забашавічы і многія іншыя. Менавіта да гэтага часу адно-

### Асноўныя шляхі Барысаўшчыны ў X стагоддзі




### Асноўныя шляхі Барысаўшчыны ў XV-XVIII стагоддзях




### Асноўныя шляхі Барысаўшчыны ў сярэдзіне XIX стагоддзя







*Тэхнік-будаўнік Мацвей Фадзеевіч Бычкоўскі (зверху). Пад яго кіраўніцтвам у другім дзесяцігоддзі XX стагоддзя на Барысаўшчыне ўзводзіліся масты, у тым ліку і разводныя ў Барысаве (аб іх наша газета пісала ў № 4(13) за2000 г.) і будаваліся дарогі. Унікальныя тагачасныя фотакарткі, якія прапануюцца вам сёння, захоўваюцца ў фондах Барысаўскага краязнаўчага музея.*

*Будаўніцтва маста на адной з рэк Барысаўшчыны (злева)*

сяцца і фотакарткі, якія сёння прапануюцца вашай увазе і якія ілюструюць тэхніку, тэхналагію будоўлі шляхоў на Барысаўшчыне і паказваюць іх тагачасны выгляд.

Характэрны для сваёй эпохі след у развіцці тутэйшых дарог пакінуў сталінскі час. Тады рэпрэсіраваліся не толькі людзі (дарэчы, магістраль з Менска на Маскву, якая зараз лічыцца старой, будавалася ў другой палове 30-х гадоў зняволенымі), але і дарогі. У той час праз Барысаўшчыну быў пабудаваны прамы шлях з Менска на Магілёў. Новабудоўля аказалася занадта прамой (у літаральным сэнсе), што не спадабалася адказным асобам з-за магчымасці яе эфектыўнага абстрэлу з паветра і прадвырашыла лёс шляху і лёс яго праекціроўшчыкаў. На сённяшні час выкарыстоўваюцца толькі яе невялікія ўчасткі, ды і то як звычайныя грунтовыя дарогі. Паросшы ж лесам насып таго прамога шляху дзе-нідзе на поўдні Барысаўшчыны паўстае перад яго наведвальнікамі як напамін аб тых трагічных часах.

Зараз цяжка ў гэта паверыць, але ўсяго гадоў 30 таму сярод тутэйшых дарог асфальтаванымі былі толькі магістраль Берасце – Масква і шлях з Барысава да Зембіна. З Зембіна на Бягомль і Плешчаніцы быў брук. На ўсіх астатніх дарогах цвёрдае пакрыццё адсутнічала наогул.

Інфраструктура і пакрыццё дарог Барысаўшчыны, безумоўна, значна змянілася і палепшылася за апошнія гады, але новых накірункаў тутэйшых дарог агульнадзяржаўнага значэння ў параўнанні з часамі Вітаўта не стала. Больш таго, шмат якія шляхі, якія лічыліся важнымі для дзяржавы ў старыя часы, ужо зніклі. І толькі як напамін аб іх дзе-ні-дзе у тутэйшых лясах яшчэ і зараз можна сустрэць паросшыя насыпы.

**М.Мацельскі**

## Сучасны стан сеткі асноўных тутэйшых аўтамабільных шляхоў






*Будаўнічая тэхніка пачатку XX стагоддзя на коннай цязе, якая прызначана для разгладжвання і трамбоўкі глебы (зверху). Яна дазваляла атрымліваць добрую якасць дарог без цвёрдага пакрыцця*

*Будаўніцтва насыпу ў пойме ракі (злева). Схілы насыпаў спачатку выроўніваліся, потым пакрываліся дзёрнам. Іх наваколле заставалася некранутым. Сённяшнія падобныя будаўніцтвы вядуць да парушэння велізарных плошчаў*

*Завяршэнне будаўніцтва праз яр (справа). Усталявана сувязь для сцёкавых водаў, умацаваны насып, зроблена агароджанне па яго краях. Гатовы фрагмент шляху вызваляецца ад смецця*



*Брукаваны шлях у наваколлях Барысава (знізу). Зараз гэта дарога пакрыта асфальтам.На здымку паказаны паварот на шляху Барысаў - Зембін пры спуску ад райбальніцы да поймы Бярэзіны*



# БАРЫСАЎШЧЫНА АД НАЙСТАРАЖЫТНЫХ ЧАСОЎ ДА СУЧАСНАСЦІ

*(Працяг, пачатак у № 1-16, 18 - 20, 22 - 31, 34 за 1996 - 2002 гг.)*

У паўстанні актыўны ўдзел прымае не толькі тутэйшая шляхта, але і розныя сацыяльныя групы жыхароў горада, вельмі шмат моладзі. Шмат прыхільнікаў паўстання было і сярод прадстаўнікоў улады, жандармаў і вайскоўцаў, якія мелі тутэйшае паходжанне. Так, адным з атрадаў касіянераў на Барысаўшчыне кіраваў афіцэр расійскага войска. Найменш актыўна ўдзельнічала ў паўстанні сялянства, якое нярэдка нават дапамагала царскім карнікам. Пасіўная пазіцыя тутэйшага сялянства ў далейшым шмат у чым вызначыла лёс паўстання на нашых землях.

Паўсюдная наяўнасць, у тым ліку і сярод прадстаўнікоў улады і жандармаў, прыхільнікаў інсургентаў рабіла змаганне з атрадамі касіянераў вельмі цяжкім. Паўстанцы былі добра інфармаваны аб усіх захадах рускіх карнікаў.

Тутэйшыя атрады касіянераў налічвалі ад некалькіх дзесяткаў да некалькіх соцень чалавек.

У траўні 1863 года войскі рэзервовага Крэменчугскага палка ўвесь час праследуюць па Барысаўскаму павету атрады інсургентаў, не раз уступаюць з імі ў бой. 31 красавіка (11 траўня па новаму стылю) каля вёскі Поруш (зараз не існуе) у Барысаўскай пушчы адбыўся бой паміж царскімі жаўнерамі і атрадам Генрыка Дмахоўскага. Сам Генрык пэўны час да пачатку паўстання жыў у эміграцыі ў Злучаных Штатах Амерыкі ў Каліфорніі. З пачаткам паўстання вяртаецца на радзіму і прымае ў ім актыўны ўдзел. Аднак 31 красавіка падчас бою ён першым жа выстралам быў забіты. Без кіраўніка касіянеры не змаглі арганізаваць супраціў і адышлі дробнымі часткамі ў навакольныя лясы.

З чацвёртага па сёмае траўня толькі адзін з атрадаў Крэменчугскага рэзервовага палка чатыры разы ўступаў на Барысаўшчыне ў бай з паўстанцамі. Найбольш значны на тутэйшых землях бой адбыўся 7 (19) траўня 1863 года каля вёскі Падбярэззе. Тут атрад касіянераў у колькасці каля 400 чалавек, які быў сфарміраваны ў лясах Барысаўшчыны, трымаў бой з расійскімі карнікамі з Крэменчугскага палка. Барацьба была ўпартая. Доўгі час працягвалася перастрэлка. Аднак паўстанцы былі значна горш узброены і вымушаны былі саступіць. У выніку бою 11 касіянераў загінула, 25 было ўзята ў палон. Рускае войска захапіла ў паўстанцаў 15 падвод, 46 коней, 54 стрэльбы, адну невялікую гармату, шмат кос, шабель і іншай зброі. Сярод "трафеяў" было нямала адзення, паўстанцкай літаратуры. Пасля бою тамтэйшыя сяляне дапамаглі затрымаць яшчэ 24 паўстанцы, якія падчас адступлення адбіліся ад атрада.

У той жа дзень 7 траўня ў Барысаўскім павеце (ля мяжы сучаснага Барысаўскага раёна) адбыўся яшчэ адзін бой паміж касіянерамі і царскімі карнікамі. Адбылося гэта паміж Халопенічамі і Шчаўрамі. Поспех там таксама быў на баку рэгулярнага войска.

Паўстанцы сваімі дзеяннямі праяўлялі сябе ў Зембіне і шмат дзе яшчэ на Барысаўшчыне. Шмат хто з барысаўцаў змагаўся за межамі сённяшняга Барысаўскага раёна. Так Антон Трусаў сабраў атрад у 70 касіянераў. 28 красавіка ён трымаў бой з расійскімі карнікамі каля вёскі Пятровічы (10 кіламетраў на паўночны захад ад Смілавіч). У выніку бою атрад паўстанцаў быў разбіты, 30 інсургентаў былі забіты, 3 паранены. Сам А.Трусаў і рэшткі яго



*Праект помніка змагарам за Бацькаўшчыну на месцы бою 7 траўня 1863 года каля вёскі Падбярэззе. Аўтар праекта Л.Гадун*

касіянераў у далейшым далучыліся да атрада, які ўзначальваў С.Ляскоўскі.

Барысаўская лякарня тым часам была перапоўнена параненымі. Колькасць цывільнага насельніцтва, што змагло ў 1863 годзе карыстацца яе паслугамі, у параўнанні з іншымі гадамі было паменшана на чвэрць, а агульная колькасць тых, хто вымушаны быў там лячыцца ў 1863 годзе, была болей чым у іншыя гады на трэць. Сярод усіх, хто вымушаны быў у 1863 годзе звяртацца ў барысаўскую лякарню, кожны трэці меў патрэбу ў дапамозе з-за паўстанцкіх падзеяў.

Другога чэрвеня 1863 года з-за велізарнага маштабу паўстанцкага руху на ўсёй тэрыторыі Менскай губерні ўводзіцца вайсковае становішча.

Тутэйшыя атрады касіянераў не мелі добрага ўзбраення і не ў стане былі здзяйсняць вялікія вайсковыя акцыі, якія б мелі стратэгічнае значэнне для паўстання. Касіянерам даводзілася ў асноўным абараняцца ад царскага войска. У сутычках часта гінулі кіраўнікі атрадаў. Гэта было не толькі з Г.Дмахоўскім. 10 чэрвеня гэта здарылася з кіраўніком аднаго з атрадаў на Барысаўшчыне Кучэўскім.

У выніку прынятых тутэйшым рускім кіраўніцтвам і карнікамі мер да сярэдзіны жніўня паўстанне ў большасці паветаў Менскай губерні пачало затухаць. Аднак у нашым краі дзейнасць касіянераў па-ранейшаму заставалася актыўнай.

Вялікае намаганне па задушэнню паўстанцкага руху на Барысаўшчыне прыкладаў прыстаў 2-га стану губернскі сакратар Адам Ляцкі. За гэта ў верасні 1863 года на яго быў здзейснены напад, у выніку якога ён быў забіты. Па гэтай справе таксама адбыліся арышты. Пад следства трапілі Марцін Валейніч (59 год, мешчанін) і Даменік Івашкевіч (77 год, дваранін). Абодва ў далейшым былі вызвалены з-за недаказанасці іх датычнасці да справы.

Восенню 1863 года на Барысаўшчыне не так актыўна як раней, але працягвалі існаваць і дзейнічаць паўстанцкія атрады. У той жа час, каб прадухіліць магчымыя для сябе негатыўныя наступствы 6-га кастрычніка, частка шляхты Менскай губерні пасылае ліст на імя расійскага імператара, у якім падкрэслівае сваю лаяльнасць да яго. Сярод тых, хто яго падпісаў, нямала і прадстаўнікоў Барысаўшчыны. У далейшым шмат хто яшчэ далучаў свае подпісы да гэтага ліста.

На пачатку 1864 года адпаведнымі расійскімі службамі была раскрыта кіраўнічая структура прадстаўнікоў паўстанцкага ўраду на Меншчыне, у тым ліку і ў Барысаве. На той час паўстанне было практычна задушана. Тым не менш, асобныя невялікія атрады касіянераў дзейнічалі ў нашым краі на працягу амаль усяго 1864 года. Так яшчэ 22 кастрычніка ў Барысаўскім павеце адзначаецца атрад колькасцю ў 30 чалавек, якім кіраваў Кавалеўскі. Прычым гэты атрад быў не адзіным. Але ў хуткім часе паўстанне было канчаткова падаўлена.

*(Працяг будзе)*
**М.Мацельскі**





*Зінаіда Ганчарова (зверху)*

*Будынак школы ў вёсцы Гара, якая была заснавана ў 1908 годзе (злева)*

# Бабуля Зінаіда і яе яблыні

*По дарозе жыцця ідзе гаранская бабуля Зінаіда ўжо дзевяты дзесятак гадоў. Ідзе ўсё больш насупраць ветру, пераадольваючы бяду, адчай, трывогу, але шукаючы пры гэтым новую надзею, - як і ўвесь народ, як і ўсё шматпакутнае пакаленне, на долю якога выпала вялікая вайна і тры эпохі спусташальных грамадскіх узрушэнняў.*

Зінаіда Дзмітрыеўна Ганчарова нарадзілася ў прыгараднай вёсцы Гара яшчэ да рэвалюцыі, але яе свядомае дзяцінства прыйшлося на першыя гады савецкай улады. Перажыла нягоды Вялікай Айчыннай вайны з дзвюма малымі дочкамі на руках. Потым зноў жыццё яе не песціла. Гадавалі з мужам пецярых дзяцей. І вось тады, калі ўжо выраслі ўсе, сталі самастойнымі людзьмі, лёс наканаваў вялікую бяду. У 1972 годзе ў выніку няшчаснага выпадку загінуў малодшы сын Дзміт-рый, які працаваў на той час у Барысаўскім леспрамгасе. Не зацягвалася і праз дзесяцігоддзі балючая рана ў мацярынскім сэрцы, і здавалася, што адной яе хопіць да канца дзён.

Але ж не. Чорным ветрам пранеслася чарнобыльская бяда і застудзіла новым адчаем матчына сэрца. Сын Саша – прыгожы, дужы мужчына, апора і надзея сям'і, старшына міліцыі Аляксандр Міхайлавіч Ганчароў – у радах іншых супрацоўнікаў унутраных спраў быў камандзіраваны ў Чарнобыль для нясення службы ў небяспечнай зоне. Неўзабаве цяжкая хвароба зваліла Аляксандра з ног, і ў 1993 годзе яго не стала.

…Бабуліна памяць. Вядома ж, запоўнена яна болем найцяжэйшых мацярынскіх страт. Але ж у доўгім жыцці было шмат чаго значнага, хвалюючага, яркага, што ніколі не забываецца. Бабуля Зінаіда, якая жыве цяпер з дачкой у горадзе, рада скрасіць змрочны зімовы дзень няспешнай гутаркай з некім з маладзейшых і абавязкова падзяліцца пры гэтым марай аб тым, каб надышла вясна, засвяціла сонейка, ды каб паехаць тады зноў у Гару – да ўсяго таго, што стварылі яе рукі, але вось вымушаны пакідаць, страціўшы былую сілу.

Надзвіва падрабязна і яскрава памятае бабуля Зінаіда сваё дзяцінства. І самае незабыўнае яе ўражанне з тых часоў – Гаранская пачатковая школа, якую пабудавалі яшчэ да рэвалюцыі, але стаіць яна і сёння на тым жа месцы і ў ёй паспяхова вучыцца бабуліна праўнучка Насця.

У першыя паслярэвалюцыйныя гады, на якія прыйшлося бабуліна вучнёўства, у Гаранскай школе, як гаворыцца, і яблыку не было дзе ўпасці. Вучыцца хадзілі дзеці не толькі з Гары, але і з Юшкевічаў. Чатыры класы ў адным памяшканні сядзелі так шчыльна, што ледзь варухнуцца было. Дзеці хадзілі хто ў якой вопратцы, абуваліся ў лапці. На той час маленькая Зіна пляла ўжо лапці сама і добра памятае, што хапала адной пары прыкладна на тры месяцы. Паколькі сшыткаў не было, то бацька купіў ёй чорную дошку і крэйду, якія патрэбна было насіць у зрэбнай торбе побач са сціплым абедам, загорнутым у анучку. Падручнікаў таксама не хапала, і настаўнік Іван Рыгоравіч Іскрыцкі даваў на ўроку адну кніжку на некалькі чалавек.

Вучыліся спачатку па-беларуску. Але настаўніку чамусьці не падабалася, калі дзеці называлі яго панам. Больш да спадобы яму быў рускі зварот "господин".

Толькі неўзабаве па-руску давялося звяртацца не толькі да настаўніка, але і вучыцца гаварыць на ўроках.

Як бы там ні было, а Іван Рыгоравіч Іскрыцкі, які працаваў у школе разам са сваёй жонкай, запомніўся бабулі Зінаідзе і добрым чалавекам, і добрым настаўнікам. І людзі адносіліся да яго з вялікай павагай. Настаўнік на той час быў на вёсцы найпершым чалавекам. Кожную суботу ў школе праводзіліся бацькоўскія сходы з падрабязным разборам поспехаў дзяцей. І ніхто з бацькоў не спасылаўся на занятасць, каб не пайсці. Бо так рабіць было сорамна.

Памёр гаранскі настаўнік недзе ў гады першых масавых сталінскіх рэпрэсій. Казалі людзі, што ад разрыву сэрца. Надта ж ужо журыўся і перажываў. Напэўна, так цяжка ўразілі яго падзеі, што адбываліся ў краіне. А дзяцей ён вучыў сапраўды добра. Да вайны з былых яго вучняў выйшлі чатыры ўрачы. Ды і маліцца будучых атэістаў па прымусу навучыў таксама ён. Памятае бабуля Зінаіда, што кожную раніцу заняткі ў школе пачыналіся з малітвы, пасля чаго абразок хуценька хавалі ад чужых вачэй на выпадак начальніцкай праверкі.

Чатырохкласнай адукацыяй закончыліся бабуліны універсітэты. Надалей праходзіла універсітэты самага жыцця – адзін другога цяжэйшыя.

Вайна. Малыя дзеці. Акупацыя. Голад. Некалькі гаранскіх жанчын пайшлі пешшу за Менск на багатыя хутары яшчэ нядаўна Заходняй Беларусі недзе аж за Ракаў у заробкі. Падрадзілася да адных гаспадароў жаць жыта ад цямна да цямна. Гаспадары работнікаў нанялі, а пакармліць не надта былі ахвочыя. Прапаноўвалі толькі ледзь забеленую зацірку з асцюкамі, ад якой пасля нясцерпна зводзіла жывот. А начаваць прыходзілася жанчынам у пуні.

Праз некаторы час перайшлі батрачкі да іншых гаспадароў – і нібыта ў нейкі іншы свет трапілі. У той хаце прынялі іх, як дарагіх гасцей, частавалі найлепшым, пасцялілі пасцелі ў хаце. А абед работніцам гаспадыня сама гатавала і насіла ў поле.

Так зарабілі гаранскія жанчыны хлеба. Усклалі на спіны мяшкі па 30-40 кілаграмаў і рушылі пешшу дамоў. Ішлі яны так, ішлі і натрапілі на страшную знаходку на дарозе. Гэта была расстраляная немцамі яўрэйская сям'я. Да гэтага часу стаіць перад вачыма бабулі Зінаіды мёртвая дзяўчына-прыгажуня з тоўстымі чорнымі косамі.

Прыгнечаныя страхам, жанчыны рушылі далей па шашы. Праз некаторы час іх дагнала нямецкая аўтакалона. Машыны спыніліся, і з першай выйшаў афіцэр,

*(Заканчэнне на стар. 11)*

# Бабуля Зінаіда і яе яблыні

*(Працяг, пачатак на стар. 10)*

якi пачаў звяртацца да жанчын і нешта крычаць па-свойму, размахваючы рукамі. Потым зразумелі нарэшце, што пытаецца ён, куды ідуць. Адказалі. Тады немец зрабіў знак салдатам, якія тут жа саскочылі з машыны. Жанчыны, зялёныя ад страху, ужо развіталіся з жыццём. Але салдаты пазакідвалі іх цяжкія мяхі ў кузаў і загадалі садзіцца і ім самім. Так і давезлі жанчын да Барысава. Па дарозе, як маглі, распытвалі пра жыццё, спачувалі.

"Вось так яно было, - кажа бабуля Зінаіда. – Розныя ёсць людзі як сярод сваіх, так і сярод чужых. Ад добрага – дабро. Ад злога – зло. Так і ўвесь свет заўсёды на дзве палавіны дзеліцца."

Увесь свет для бабулі Зінаіды цяпер у акне. З дабром і злом. Са студзёнай зімой і жаданай сонечнай вясной, якая наступіць няхай і не так хутка, але ў гаранскай сядзібе Ганчаровых, як было заўсёды, пышна зацвітуць яблыні.

*Запісала А.Турко*

# Адзенне ўхалодцаў пачатку ХХ стагоддзя

*Мы працягваем друкаваць успаміны краязнаўцы з вёскі Ухалода І.Клімковіча. Сёння расповед пойдзе аб вопратцы, якая была ва ўжытку ў жыхароў Ухалоды на пачатку ХХ стагоддзя.*

Адзенне было пераважна даматканае, сшытае сваімі рукамі або мясцовымі краўцамі і краўчыхамі.

Дзеці 5-6 гадоў зімой і летам насілі палатняныя ніжэй каленяў кашулі з рукавамі. Ля каўняра завязкі альбо драўляная чучупалка. Больш дарослыя дзеці насілі штаны ці сукенку з фарбаванай тканіны.

У мужчын – белыя кашулі і штаны. Ля каўняра – адзін гузік (у старых – тасёмкі), на штанах замест гузіка драўляная чучупалка. Дзеля таго, каб кашуля выглядала больш прыгожа, па адвароту нашывалася з белага (крамнага) палатна манішка. Часам па каўняру і адвароту нашывалі вузкую стужку з арнаментам. Гэта былі кашулі святочныя, "абеднішнія". Зверху летам апраналі белы балахон (не на працу). Ніжняй бялізны не ведалі.

У халаднаваты час насілі даматканыя сермякі (армякі) з паўшарсцяной тканіны без падкладкі. У сям'і кожны меў свой сярмяк, хто новы, а хто перашыты са старога. Зверху мог быць пояс.

У халоднае надвор'е апраналі другія зрэбныя або даматканыя паўшарсцяныя штаны. Апраналі паддзёўку – з той жа паўшарсцяной тканіны (часам пафарбаванай у чорны колер) на ватнай падбіўцы. Кажух (быў не ў кожнага) някрыты ці з армяком зверху. Падпярэзваліся даматканым ці сырамятным поясам.

На галаве летам насілі фуражку (называлася шапкай), зімой – шапка "піражком". З'яўляцца на людзях без галаўнога ўбору не было прынята. У халодны час на шыю павязваўся шалік з вігоні ці шэрсці. Паверх каўняра надзявалі (у каго быў) башлык.

Абутак – лапці. Шмат я лапцей знасіў, а самому іх плесці не давялося. Лапці плялі, і зімой і летам. Дзеля трываласці, асабліва зімой, лапці падпляталі (накшталт падмёткі) вяровачным шнуром, часам падшывалі сырамятнай скурай.

Ухалодскія лапці па способу пляцення – даволі прымітыўныя і, мабыць, менш даўгавечныя ў параўнанні з лапцямі з іншых раёнаў.

Улетку пераважна хадзілі басанож. Дзеці ўсе бегалі босыя, дарослыя насілі часам лапці на сенакосе і ў час жніва – каб не наколоць ногі. Абуваліся ў лапці, ідучы ў лес, каб не скалечыць ногі на суччы і каранях. У Барысаве таксама непрыстойна было паявіцца без абутку – "мы хоць і бедныя, але не басякі!"

Да святаў, асабліва вясенніх, стараліся падрыхтаваць новыя лапці з новымі аборамі і белыя свежыя парцянкі. У зімовы час трэба было мець таксама і суконкі, паверх анучаў.

Паступова ў абыход ухалодцаў пранікалі і крамныя вырабы, у тым ліку і ў вопратку. Жаніху трэба было ехаць да вянца, калі не ва ўласных ботах, то хаця б пазычыць іх на гэты выпадак у больш заможнага чалавека. З'явіліся кумачовыя кашулі, штаны з "чортавай скуры".

У жанчын – узімку і ўлетку – з саматканага белага палатна сарочка. Бюстгалтараў і штанішак не насілі. Паверх сарочкі – кофтачка з даўгімі рукавамі і спадніца з матузкамі. Кофта і спадніца – з даматканага фарбаванага палатна. На галаве – хуста. Калі сродкі дазвалялі – апраналі паркалёвыя кофтачкі і спадніцы.

У халаднаваты час дадавалі яшчэ адну спадніцу (ці некалькі) і вялікую хусту. Апраналі даматканую паўшарсцяную світку, расшытую чорнай тасьмой.

Узімку – ватоўка, паўшарсцяная спадніца ці дзве. Шарсцяная вялікая хуста. Кажух (быў не ва ўсіх).

Абутак у жанчын – таксама лапці. Белыя парцянкі да каленяў. Калі былі сродкі – па святах і ў госці абувалі паўбацінкі (камашы).

Дзецям, калі меліся пэўныя сродкі, куплялі да вялікіх святаў кумачу на кашулі, а ў халодны час – мультану.

Мой бацька меў добры касцюм -тройку – адзін за ўсё жыццё. Як ён яго зберагаў! Старэйшы брат таксама пашыў сабе добры касцюм, калі быў кавалерам і пачаў сам зарабляць грошы.

Я вучыўся ў Барысаве і насіў паддзёўку з даматканага сукна, штаны з "чортавай скуры" – чорнай, моцнай і таннай тканіны. Боты насіў, пакінутыя братам (пайшоў у войска). А ўжо потым сшылі мне боты на заказ, цаною чатыры рублі.

Кашулі, штаны, кофты, спадніцы, посцілкі, навалочкі, мяхі, торбы з саматканага палатна шылі самі суровымі ніткамі. Ватоўкі, паддзёўкі, армякі, кажухі – шылі прыходзячыя краўцы з сваёй вёскі ці з іншых месцаў. Запрашалі іх ў хату на некалькі дзён, пакуль не будзе пашыта ўсё, што запланавана. Шылі краўцы таксама на руках, без швейных машын.

Для маладых жанчын і дзяўчат з крамнага палатна вырабы ў той час шылі дачкі каваля Кузняцова, якія мелі швейную машынку.

Мылі рэчы з даматканага палатна, у асноўным, без мыла. Замочвалі, а потым абдавалі варам у шчолачы з попелу, потым каталі пранікам і паласкалі ля студні, крыніцы або на ручаіне.

Крамнае мылі з мылам. Памытыя і пасушаныя рэчы не прасавалі. Прасы былі толькі ў краўцоў – разгладжваць швы. Бялізну качалі на драўлянай качалцы самаробным зубчатым рубелем.

Аўчыну на выдзелку вазілі ў нейкае мястэчка (не ў Барысаў). Гаспадар дубільні выдаваў здатчыку замест квітка палову драўлянай біркі. Другая палова біркі прычаплялася да прынятай скуры. Калі атрымлівалі гатовую рэч, складалі паловы бірак, правяраючы, ці супадуць надрэзы на абодвух паловах.

*І.Клімковіч*



# Друцкія карані і галіны майго радаводу

*(Заканчэнне, пачатак у № 10 - 12 за 2001 г., № 1 за 2002 г.)*

*Уладзімір і Любоў Лайковы за сямейным самаварам (зверху) Самавар і яго "радаслоўная" (знізу)*








Увогуле, дзядзька Валодзя быў майстрам на ўсе рукі. Колькі дзён з аўтагенам у руках адхадзіў ля сваёй лапленай старэнькай "Победы" і колькі разоў пры гэтым, будучы ўжо студэнтам, прыйшлося памучыцца разам з ім і мне. Помню таксама, у самыя апошнія гады жыцця дзядзька Валодзя навучыўся шыць зімовыя шапкі і прытым рабіў гэта няблага.

Можна многа даставаць з памяці эпізодаў жыцця, так ці інакш звязаных з дзядзькам. Але я мушу спыніцца, здаецца, на галоўным. Уладзімір Апанасавіч быў тым маім дзядзькам, дзякуючы якому, не без удзелу, канешне, маіх школьных настаўнікаў беларускай і рускай літаратуры Рабкова Івана Ісакавіча і Антонава Івана Дзмітравіча, я раз і назаўсёды палюбіў прыгожае пісьменства. Бо дзядзька Валодзя меў добрую ўласную бібліятэку. Ён любіў сам чытаць кнігі. Больш таго, нават стаў пісаць вершы. І што асабліва цікава - энергічна займаўся вершапісаннем напрыканцы жыцця.

15 красавіка 1989 дзядзькі не стала. На Паўночных могілках у Менску я развітваўся з любімым родным дзядзькам Валодзем. Я павінен быў абавязкова сказаць некалькі слоў на развітанне. Павінен быў, але ад жалю вялікай страты не змог... Праз сем гадоў памерла і цётка Маша, жонка дзядзькі Валодзі. Няпроста, вельмі складана было цётцы жыць з дзядзькам. Але яе прах (такім было яе жаданне) захавалі ў магілы Уладзіміра Апанасавіча. Жывуць зараз у Менску дзве іх дачкі: Люда і Галя. У сваю чаргу, усе вучыліся, атрымалі вышэйшую адукацыю. А іх хлопцы Андрэй і Сяргей працягваюць наш род.

Жыве зараз у Менску ў тым жа прыватным доме на вуліцы Шчадрына, дзе жыў і дзядзька, малодшая сястра маці, мая родная цётка Лідзія Апанасаўна Зотэнка (дзявочае прозвішча - Курчова). У пяцідзесятыя гады яна выйшла замуж за ўраджэнца Украіны Міколу Аляксеевіча Зотэнку, заўсёды жыццярадаснага чалавека і нечым нават знешне падобнага на вядомага акцёра савецкага кіно Яўгена Лявонава. Нарадзілі і вырасцілі яны дзвюх дачок: Тамару і Галіну. У сваю чаргу іх дочкі, мае дваюрадныя сёстры, гадуюць сваіх дзяцей Алега, Юлю, Алену, Андрэя і Дзіму. Усім ім таксама працягваць наш род ужо у гэтым, дваццаць першым стагоддзі. Цётка Ліда ўсё жыццё была і застаецца вельмі добрай жонкай, маці і бабуляй. Мая асаблівая ўдзячнасць ёй і дзядзьку Колю яшчэ і ў тым, што яны на працягу ўсяго майго студэнцтва ў Менску дапамагалі мне, як свайму роднаму сыну. Іх дом быў другім маім домам. Таму прысутнічае і сёння ў мяне дакор: а ці змог я хоць частка аддзячыць гэтых родных і дарагіх сваіх суродзічаў. Няхай паздаровіць усіх іх Божа яшчэ многія гады.

...Зноўку і зноўку выношу самую дарагую хатнюю і радавую рэліквію - наш самавар на вуліцу, беражна стаўляю на стол пад старой яблыняй. Запальваю лучынкі, і праз некалькі хвілінаў самавар разаграваецца: смалісты сасновы дым і мятна-чабаровы пах гарбаты ахінаюць маю мядоцкую сядзібу. І тады быццам збіраецца ўся наша радзіна, якая жыла стагоддзі, дзесяцігоддзі і гады таму, і тая, што сёння працягвае мой радавод. Выносяцца і выносяцца лаўкі і сталы з хаты. Ды куды там: хіба можна ўсіх гасцей сваіх пасадзіць. Прашу прабачэння і ўсаджваю бацьку і самых, самых першых прашчураў нашага роду.

Задаволена пыхкае стогадовы самавар, адзіны жывы сведка доўгай і бясконцай маёй радні, і пры гэтым быццам бы кажа:

"-Жыві, мацуйся і працягвайся ў стагоддзях радаводнае дрэва нашай сям'і."

*У.Лайкоў*

# Чытайце кнігі. Нават у дзень закаханых

Адным з самых напружаных у дзіцячай бібліятэцы быў калядны тыдзень. Тэматычныя выставы літаратуры і перыёдыкі, цікавыя сустрэчы, канферэнцыі чытачоў.

Цяпер жа, у разгар самай працяглай зімовай чвэрці, бібліятэка зноў не пустуе. Кожны супрацоўнік распрацоўвае і рэалізуе сваю аўтарскую праграму выхавання чытача па самых важных напрамках грамадскага і школьнага жыцця.

Цэлы шэраг цікавых мерапрыемстваў прапануецца школьнікам па праграме ваенна-патрыятычнага выхавання "Грамадзянін". Экалагічная праграма, праграма падтрымкі і развіцця інтэлектуальных гульняў "Што? Дзе? Калі?" і "Дэбаты" - усё гэта дапамагае вучням набыць самыя шырокія веды па гэтых напрамках, а педагогам – найлепш арганізаваць навучальны працэс. І вельмі важна тое, што ўся работа з чытачом – адрасная. Кожнае мерапрыемства рыхтуецца для канкрэтнай школы і класа з улікам асаблівасцей, а таксама пажаданняў чытацкай аўдыторыі.

А ўжо вельмі хутка ў дзіцячай гарадской бібліятэцы надыдзе чарга актыўнага асвятлення самай рамантычнай тэмы – кахання. 14 лютага – Дзень святога Валянціна. Актыўная падрыхтоўка да яго толькі пачалася, і пакуль цяжка сказаць, як усё будзе выглядаць канкрэтна. Але ўжо вядома, што, як і заўсёды, будзе разгорнута цудоўная выстава мастацкай і дакументальнай літаратуры, перыёдыкі, прысвечанай Дню святога Валянціна. У бібліятэку можна будзе завітаць цэлым класам альбо паасобку. У любым выпадку гэта наведванне будзе цікавым, запамінальным, карысным і, вядома ж, рамантычным.

*А.Турко*





*Камень з крыжом і знакамі каля вёскі Хрост (злева)*

*Каменны крыж каля вёскі Пупелічы (знізу)*

# Невядомае навокал нас

*Вакол нас шмат помнікаў старажытнасці. Многія з іх застаюцца недаследаванымі па наш час. Адныымі з такіх аб'ектаў з'яўляюцца пахавальныя і іншыя камяні, на большасці з якіх высечаны адмысловыя знакі.*

Наша газета не раз уздымала гэту тэму. Пісалі мы пра паганскае капішча на Бабінай гары каля вёскі Хрост, пра каменны крыж каля вёскі Пупелічы і пра многія іншыя адметныя камяні. Не аднойчы мы яшчэ звернемся ў сваіх матэрыялах да падобных аб'ектаў. Калі б атрымалася сабраць і расшыфраваць усе тыя знакі, якія сустракаюцца на тутэйшых пахавальных і культавых камянях, мы б для сябе змаглі адкрыць шмат новага і, можа, нечаканага ў нашай мінуўшчыне. На жаль, гэта ніша яшчэ чакае сваіх даследчыкаў.




У Крупскім раёне, дзякуючы намаганням тамтэйшага краязнаўцы А.Аляхновіча, прымаюцца захады па вывучэнню свайго краю праз краязнаўчыя экспедыцыі скаўтаў. Спробай сістэматызацыі адной з іх з'яўляецца брашура "Экспэдыцыя "Малога Палесся", што нядаўна ўбачыла свет і ў якой распавядаецца пра даследаванне фальклору і наваколляў вёскі Дакучын. Дакучын знаходзіцца ля возера Сялява, якое з'яўляецца адным з найбольш папулярных месцаў адпачынку для многіх барысаўцаў. Таму звесткі пра тамтэйшыя помнікі старых часоў могуць шмат для каго быць цікавымі.

Першае, што кідаецца пасля прачытання брашуры – гэта атмасфера велізарнай цікавасці да краязнаўства і сваёй зямлі. Такі дух быў уласцівы для публікацый 20-х – пачатку 30-х гадоў XX стагоддзя, калі на Беларусі меў месца сапраўдны ўздым краязнаўства. Аднак рэпрэсіі другой паловы 30-х гадоў яго нашчэнт вынішчылі. І, здавалася, што назаўжды. На шчасце, гэта аказалася не так. Па-другое, А.Аляхновічам сапраўды сабрана вельмі цікавая інфармацыя аб каштоўных у гістарычным плане аб'ектах. Больш таго, аўтарам робіцца спробы сістэматызацыі сабранага матэрыялу. Па-трэцяе, самі сабою напрошваюцца аналогіі паміж тым, што бачылі скаўты ў наваколлях Сялявы, і тое, што захавалася на Барысаўшчыне.

А.Аляхновіч распавядае пра курганы, якія абкладзены каменнямі. На Барысаўшчыне ў старыя часы іх называлі "жальнікамі". Такія пахаванні рабіліся ў XIII – XIV стагоддзях. Яны з'яўляюцца прамежкавым звяном у традыцыях пахавання паміж курганамі і пахаваннямі сённяшняга тыпу. Таму не дзіва, што ў наваколлі вёскі Дакучын сустракаюцца як звычайныя курганы, так і пахаванні з каменнямі, сярэднявечныя і больш позні пахаванні з каменнымі крыжамі або камянямі са знакамі. Каля іх размяшчаюцца сучасныя могілкі. Усё гэта гаворыць пра тое, што пахаванні на гэтым месцы робіцца каля 1000 год, а можа быць і болей. Больш таго, там вельмі добра можна прасачыць, як паступова змяняліся традыцыі пахавання ў нашым краі.

Падобныя месцы былі раней і на Барысаўшчыне. Рэдакцыя нашай газеты не раз прымала захады для іх пошуку. Апошняя такая спроба ладзілася ў лістападзе 2001 года. Яшчэ ў 20-х гадах XX стагоддзя тут можна было бачыць курганную групу, якая пераходзіла ў "жальнікі", што межавалі з могілкамі сучаснага выгляду. З сумам даводзіцца канстатаваць, што тут большасць курганаў ужо разарана, а ад "жальнікаў" даўно няма ніякіх слядоў, ні на полі ні ў памяці тутэйшых жыхароў. Падобнае становішча і ў іншых месцах Барысаўшчыны. Адсутнічаюць у літаратуры апісанні такіх месцаў у іншых кутках Беларусі. Таму старажытнае пахаванне калі вёскі Дакучын мае каштоўнасць не толькі для свайго рэгіёна, але і для Беларусі наогул.

Безумоўна, вельмі цікавымі і вартымі аховы з'яўляюцца тыя крыжы, што сустракаюцца на могілках, і іх разнастайнасць. Велізарная колькасць старых могільнікаў маецца і на Барысаўшчыне. Ёсць сярод іх і вельмі старыя. Напрыклад, не менш чым тысячагадовую гісторыю хутчэй за ўсё маюць пахаванні ў вёсцы Вялікае Стахава. Аднак іх даследаваннем, як і даследаваннем іншых старажытных пахаванняў ніхто не займаўся.

Цікавымі ў краязнаўчым аглядзе "Экспэдыцыя "Малога Палесся" з'яўляюцца гістарычныя звесткі пра Дакучын, звесткі пра тамтэйшыя карэльскія бярозы і іншае.

Усім, хто даследуе свой край, часта даводзіцца сустракацца з тым, што шмат якія цікавыя старыя аб'екты ўжо знішчаны і не маюць ніякіх апісанняў. На шчасце, комплексу пахаванняў каля Дакучына гэта не датычыцца.

Праца, якую праводзіць А.Аляхновіч, вельмі патрэбная. Карыснай у ёй з'яўляецца і тое, што да краязнаўства прыцягваецца нямала моладзі. Так, у апісанай вандроўцы акрамя яе кіраўніка прымалі ўдзел скаўты: А.Кавалеўскі, Г.Кульгавы, Г.Лебядок, А.Аляхновіч, Л.Аляхновіч, У.Аляхновіч, А.Ермаловіч, У.Дылдзін, Р.Гліннік, А.Восіпаў, Г.Восіпава, Н.Хадасевіч, А.Зізіка, А.Рыбіна, Т.Сіўцова, В.Зініко, А.Жаўранак. Выклікае шкадаванне, што патрэбная справа, якую праводзіць А.Аляхновіч, не знаходзіць паразумення ў Крупках.

***М.Мацельскі***




*Карта наваколляў Дакучына згодна А.Аляхновіча*

**Крыжы, што сустракаюцца на старых могілках каля Дакучына**

(паводле А.Аляхновіча)




## *Наша гасцёўня*

**І.Белы**

### Слова да Барысава

Воляй князя заснаваны
У сівую даўніну
Многіх ворагаў навалу
Перажыў ты не адну.

І хто толькі не пакінуў
Тут крывавы, хіжы след.
Для цябе ўжо не навіна
Чарада няшчасцяў, бед.

Ваяваць умеў заўсёды
Ты. Умееш мірна жыць:
Будаваць дамы, заводы,
Гадаваць дзяцей, вучыць.

Ты і сёння, родны горад,
Гонар свой у свет нясеш.
У дні радасці і гора
Паўнавартасна жывеш.

Цягам спёкі і марозаў
Ты намроіў шмат надзей.
Дык святкуй з сястрой Бярозай
Свой шаноўны юбілей.

**Е.Гракові̇ч**

### Снег

Снег сыпле і сыпле…
Надзейна хавае
Мінулых вясёлых падзей каляіну.

Як шэра і глуха…
І вецер свавольны
Не лашчыць, не песціць старую хваіну.

Не скіне удала,
Гуляючы быццам,
Снег стомы і смутку з галіны пажоўклай.

А снегу ўсё болей…
І цягне ўжо вечар
Бязлітаснай цемры сцюдзёную коўдру.

***Чарнуха Саша** з настаўніцкай сям'і. Яго мама выкладае ў СШ № 12 рускую мову і літаратуру і аказвае на развіццё сына дамінуючы ўплыў. Саша разнабакова адароны чалавек: піша свае вершы па-руску, па-беларуску, сур'ёзна займаецца музыкай. Да верша "Белы буслік", які прапаноўваецца ўвазе чытачоў, нядаўна стварыў выразную мелодыю.*

### Белы буслік

Белы буслік, птушка шчасця
Над маёй краінай кружы
І сваімі пяшчотнымі крыламі
Абдымай ад мяжы да мяжы.

Белы буслік, ты птушка надзеі,
Што ў народзе спрадвеку жыве.
Ты жаданы на кожным падворку,
Ты жаданы ў кожнай сям'і.

Белы буслік, над нашай зямлёю
Светлых мар ты нясеш чысціню.
Я твой клёкат над чыстымі водамі
У сваім сэрцы навек зберагу.

Белы буслік, плыві над планетай.
Я ж сказаць усім пэўна бяруся:
Неразлучнымі будуць заўсёды
Белы буслік з Белаю Руссю.

### Брэст

Славуты Брэст, раней было Бярэсце,
У назве – пах бярозавай кары.
Стаіць ён на мяжы на зручным месцы
Як абаронца з даўнішняй пары.

Не раз яго знішчалі, бралі морам,
Ды ён існуе, спалены не раз.
Ён ворагу не раз паказваў нораў,
І сам распяты быў у нядобры час.

Жыве наш Брэст, асілак і працоўны,
Стаіць над Бугам слаўны вартавы,
Цудоўны горад, дзе імя якога вее
Водарам бярозавай кары.

# Масленіца

Масленіца - старажытнае перадвеснавое свята ў славянскіх народаў, звязанае з провадамі зімы і адраджэннем пладаносных сіл зямлі. Святкавалі яе некалькі дзен з абавязковымі блінамі, вяселымі песнямі і гульнямі, катаннем на санках. Выконваліся абрады, якія павінны былі паскорыць абуджэнне прыроды, магічна садзейнічаць будучаму ўраджаю, дастатку селяніна. Спальвалі чучала зімы, палілі вогнішчы, вадзілі карагоды, спявалі масленічныя песні. На Беларусі былі таксама пашыраны абрады вітання маладых, гульні халастой моладзі. У весцы масленіца звычайна пачыналася ў чацвер. Царква прымеркавала яе на нядзелю перад Вялікім постам.

Традыцыі масленіцы захаваліся і цяпер у святкаванні провадаў зімы.

*М.Пучыла*

# А&К

*У апошнія часы на Барысаўшчыне адбываецца шмат канцэртных і фестывальных мерапрыемстваў. Большасць з іх прысвечаны 900-годдзю Барысава. Усё гэта спрыяе развіццю тутэйшых музыкантаў.*

З шэрагу апошніх мерапрыемстваў можна адзначыць прэзентацыю дыска вядомага ў Барысаве і Беларусі гурта "Аляксандра і Канстанцін". Прэзентацыя адбывалася 30 студзеня ў ДК "Белаз" г. Жодзіна. На ёй прагучалі добра вядомыя барысаўцам песні гурта. Гэта "Ах арол, ты арол", "За ліхімі за марозамі" і інш. На прэзентацыі гучалі песні па-англійску, пабеларуску і па-руску. Іх аўтары – вядомыя музыкі з англійскіх і беларускіх гуртоў. Стыль – кантры, блюз і фольк-мадэрн. У вестыбюлі падчас прэзентацыі можна было набыць дыск гурта. Можна было яго выйграць і на віктарыне, якая праводзілася там жа.

Прэзентацыя прайшла ў цёплай абстаноўцы пры поўнай залі слухачоў. На ёй прысутнічала шмат людзей з Барысава і Барысаўскага раёна. Прытым як тых, хто добра знаёмы з гуртом, так і тых, хто мала знаёмы з яго творчасцю.

Ад усяго сэрца хацелася б пажадаць гурту далейшых прафесійных поспехаў.

*С.Байрашэўскі*



# Ланцуговая рэакцыя ўлюбёнасці




*Ці не фантастычная які дзесятак гадоў карціна: на сцэне гарадскога Палаца культуры ў пярэдадзень калядных святаў перад пачаткам чарговай сесіі гарсавета разгортваецца тэатралізаваная містэрыя, у аснове якой сюжэт нараджэння Хрыста. Гучыць духоўная музыкаБартнянскага, Равенскага, Керубіні, Лоці, беларускі кант "Божае сёння Раство", выконваюцца вершы Быкава, Мей, Грынеўскай, Карынфскага, Фета, Шыдлоўскага... Карацей, дэпутатам, работнікам гарсавета, кіраўнікам прадпрыемстваў, установ горада харавы калектыў "Дзяцінства" СШ № 20 сумесна з вучнямі тэатральных класаў паказвае музыкальна – літаратурную кампазіцыю "Калядная зорка".*

Убачанае, пачутае парадавала, узрушыла душу, напоўніла сэрца гонарам за таленавітых землякоў. Захацелася бліжэй пазнаёміцца з удзельнікамі калектыву, яго кіраўніком.

Войтка Эла Леанідаўна ў СШ № 20 з 1993 года. Да гэтага атрымала адукацыю ў Ташкенцкім музыкальна – педагагічным вучылішчы. Цяпер завочна вучыцца ў педагагічным універсітэце імя М.Танка. Сама ўлюбёная ў музыку, па яе словах, рашыла ўлюбіць у яе сваіх выхаванцаў. Гэта ёй, несумненна, удалося. Размаўляючы з удзельнікамі калектыву перад чарговай рэпетыцыяй, я пераканаўся, што ім падабаецца духоўная музыка, ім падабаецца гастраліраваць, яны адчуваюць вялікую адказнасць перад кожным выступленнем. А выступаюць яны часта: у гарадскім Палацы культуры, у касцёле, хлебазаводзе, домабудаўнічым камбінаце, у г. Жодзіна. Найбольш памятнае і паспяховае выступленне на 8 Міжнародным фестывалі "Магутны Божа" ў Магілёве, дзе яны сталі ўладальнікамі другога месца.

У творчым активе калектыву, акрамя ўжо ўзгаданай, яшчэ адна кампазіцыя, прысвечаная Маці. У бліжэйшых планах літаратурна – музыкальная кампазіцыя, прысвечаная рамансу. Словам, калектыў у няспынным пошуку.

Творчай сталасці табе, "Дзяцінства"! Улюбёны ў цябе, адзін з многіх

*І.Белы*

***P.S.*** *Баючыся выставіць сябе дылетантам, тым не менш зазначу: не толькі радыёактыўныя элементы выклікаюць ланцуговую рэакцыю, але і (і ў яшчэ большай ступені) творчасць таленавітых людзей. Перавага апошняй у тым, што зусім не трэба асцерагацца выбуху, выбуху эмоцый у выглядзе апладысментаў.*



# Калі спявае сэрца

*Напрыканцы рабочага дня, калі гарадскі транспарт запаўняецца ўзрушаным "пасажырапатокам" для ўражлівага чалавека наступае хвіліна сапраўднай роспачы. Куды едуць, куды будуць хавацца ўсе гэтыя людзі ад натужлівай дзённай дзелавой мітусні? Ведама ж, трапяць яны зноў у мітусню – хатнюю, бытавую, часам да болю надакучлівую, безвыходную, каб круціцца, як заведзеныя механізмы, у стрэсавым коле жыцця.*

*...Але ў тым жа перапоўненым аўтобусе знойдзецца нехта адзін, хто будзе ехаць у адваротным напрамку: ад надакучлівай мітусні – да палёту душы і радасці сэрца.*




Людміла Іванаўна Карнеявец спяшалася гэтым пятнічным надвячоркам у гарадскі Палац культуры к пяці гадзінам. Ёй, удзельніцы ансамбля песні "Вытокі" амаль што з дзесяцігадовым стажам ды яшчэ і старасце гэтага калектыву, нельга было спазняцца, бо перад рэпетыцыяй належала яшчэ зрабіць некаторыя арганізацыйныя справы. Менавіта Людміле Іванаўне, вельмі сабранаму, пунктуальнаму чалавеку, спаўна даверыла ўсе "адміністрацыйныя" абавязкі кіраўнік ансамбля Алёна Станіславаўна Котава.

Лепш за ўсіх ведае Людміла Іванаўна Карнеявец і пятнаццацігадовую гісторыю стварэння ансамбля "Вытокі". А пачыналася яна ў 1986 годзе ў Палацы культуры фабрыкі піяніна. З той пары стаў іншым не толькі адрас калектыву, але і цалкам змяніўся яго састаў. Колькасць удзельнікаў мянялася ад 25 чалавек да 19 – як цяпер. Праз калектыў за гэты час прайшло шмат людзей, лёсы якіх і складаюць цяпер яго гісторыю. Напрыклад, Мікалай Гаспадарык і Вольга Салдаценка знайшлі тут асабістае шчасце, стварыўшы сям'ю.

Прынцып фарміравання рэпертуару вельмі просты: прыгожая, меладычная – ці то аўтарская, ці то народная песня, якая ўдаецца тады, калі спяваць яе не толькі голасам, але і душой. Таму, урэшце, і стварылі гэты ансамбль людзі, якія жывуць песняй, якія чэрпаюць у ёй уласныя надзеі і сілы і ўмеюць перадаваць свой невычэрпны жыццёвы аптымізм удзячнаму слухачу і гледачу.

Для выкладчыцы музыкі СШ №12 Алёны Станіславаўны Котавай, якая кіруе "Вытокамі" ўжо трэці год, работа ў ансамблі – таксама асалода душы. "Ідзеш іншы раз па цёмнай вуліцы на рэпетыцыю, - прызнаецца яна, - і думаеш, ну як жа можна ўзняцца над усім гэтым змрокам?! А заспяваем – і здаецца, што ўвесь свет іншым стаў. А пасля канцэрты, удзячныя слухачы… Люблю я ўсё гэта. Гэта маё жыццё!"

Пра ўдзельнікаў ансамбля Алёна Станіславаўна гаворыць з той цеплынёй, з якой звычайна расказваюць пра найлепшых сяброў. Так яно і ёсць на самай справе. Па-сяброўску адно да аднаго тут адносяцца і маладзейшыя – як сямейная пара.

Шапавалавых, якім 25 гадоў, - так і старэйшыя. Напрыклад, Аляксандра Іванаўна Няхайчык, якая мае 78 гадоў ад роду, нястомная пявуння, першая баечніца і сапраўдная артыстка, па-маладому весела і бадзёра выглядае як са сцэны, так і ў жыцці. "А не паеду на канцэрт, - кажа яна, - дык вось тады і захварэю."

Мая Рыгораўна Хадасевіч – не толькі ўладальніца добрага голасу, але яшчэ і цудоўны дэкламатар, вельмі артыстычная вядучая. Заснавальніца сямейнага народнага трыо Ева Уладзіміраўна Сярогіна ў "Вытоках" таксама чалавек незамянімы – адораны, вопытны і захоплены па-сапраўднаму песняй. Ні на хвіліну не ўяўляе сабе жыцця па-за межамі ансамбля Марыя Мікалаеўна Мельнічэнка, якая ездзіць на рэпетыцыі ў ГПК з Лядзіша. Тое самае можна сказаць і пра Ганну Іванаўну Пазнякову, якая жыве ў старым горадзе і нават не дазваляе сабе хварэць на час канцэртаў і рэпетыцый. Уладальніца надзвычай чыстага адкрытага народнага голасу Таіса Пятроўна Касцюкевіч сваім талентам пакарыла нават прыдзірлівых прафесіянальных слухачоў са сталіцы. Выдатная салістка таксама Валянціна Цімафееўна Камісарава, якая раней некаторы час кіравала "Вытокамі".

Па-добраму зайздросціць у калектыве Людміле Іванаўне Канушынай, якая акрамя таго, што цудоўна пяе, яшчэ і паспявае ледзь не на ўсе прэм'еры сталічных тэатраў. Валянціна Віктараўна Быкава – настаўніца пачатковых класаў, бадай самы пераканаўчы носьбіт аптымізму і дабрыні. Як на канцэрце, так і на рэпетыцыі з яе твару не сыходзіць усмешка, а вочы свецяцца радасцю. Ды і наогул, усе ўдзельнікі калектыву з'яўляюцца найлепшым прыкладам для навічкоў. Напрыклад, цудоўна ўпісалася ў "Вытокі" Валянціна Цімафееўна Скуратовіч, якая прыйшла нядаўна, але ўжо гарманічна ўліла свой голас у партыю альтоў.

Ну, а пра Івана Аляксеевіча Кірнаса не толькі кіраўнік ансамбля, але і ўсе ўдзельніцы "Вытокаў" гавораць з асаблівa прыкметнай інтанацыяй пахвальбы. Па-першае, мужчынскіх галасоў у ансамблі ўсяго два, а па-другое, Іван Аляксеевіч, як сапраўдны артыст, і пад час выканання сольных песень, і дуэтаў, заўсёды выдатна спраўляецца з роляй па-гусарску галантнага кавалера.

Дружны і таленавіты калектыў любяць гледачы і слухачы. На заводах, у арганізацыях Барысаўшчыны ансамбль "Вытокі" сустракаюць з асаблівай цеплынёй. З верасня 2000 па чэрвень 2001 года калектыў даў шэсць сольных канцэртаў і больш дзесятка разоў удзельнічаў у агульных канцэртах гарадской мастацкай самадзейнасці. Ведома ж, гэта нямала, але выступленняў магло быць і значна больш, каб не залежылі канцэртныя выезды ад цяперашніх гаспадарчых праблем. Здараецца, і вельмі хацелі б паслухаць іх людзі на нейкім прадпрыемстве, але то бензіну няма, то аўтобус зламаўся. Толькі ж нягледзячы на перашкоды, "Вытокі" ўсёй душой імкнецца да любімага гледача. Даўно традыцыйнымі і асабліва цёплымі, запамінальнымі сталі канцэрты ансамбля ў санаторыі "Тарасікі". Сустракаюць іх там яшчэ на вуліцы і пасля канцэрта заўсёды праводзяць за вароты, просячы прыязджаць яшчэ і яшчэ. І гэтая шчырасць – найлепшая адзнака, высокае апрадаўнне шматлікіх творчых шуканняў.

У траўні-красавіку гэтага года ансамблю песні "Вытокі" гарадскога Палаца культуры належыць сур'ёзнае творчае выпрабаванне. Справа ў тым, што калектыў вылучаны на атрыманне звання народнага. Цяпер для "Вытокаў", якія нядаўна адзначылі свой 15-гадовы юбілей, настаў адказны перыяд падрыхтоўкі. Шматлікія паклоннікі гэтага таленавітага калектыву не сумняваюцца ў поспеху. І няхай збудуцца іх спадзяванні!

*А.Турко*


Ідзе гульня Барысаў-900 - Эканаміст

# Спартыўны агляд

**Футбол**

У камандзе БАТЭ напярэдадні новага сезона пакідаюць каманду Дзмітры Акуліч і Віталь Панасюк. У той жа час у камандзе з'явіліся абаронца Ігар Квяткоўскі (у мінулым годзе быў аддадзены ў арэнду Нафтану з Наваполацака.), Ігар Чумачэнка (Днепр-Трансмаш), Вадзім Скрыпчанка (элісцінскі Уралан), Алег Страхановіч (брэсцкае Дынама).

У асноўны склад, хутчэй за ўсё, будуць імкнуцца трапіць Валеры Тарасенка, Віталь Жукоўскі, Мікалай Саўко.

З'явіліся на праглядзе Ігар Бярозка – нападнік, паўабаронца Андрэй Шорах з менскага Трактара, а таксама гульцы Тарпеда-МАЗ (Менск) абаронца Дзмітры Рагавік і паўабаронца Павел Шмігера.

Усё гэта дае падставу меркаваць, што работа па ўмацаванню каманды ідзе вельмі паспяхова. Такім чынам закладваецца добрая глеба для ўдалага выступлення каманды ў наступным сезоне.

* * *

У суботу 25 студзеня ў Партугаліі адбылася жараб'ёўка першынства Еўропы па футболу. Зборная Беларусі трапіла ў трэцюю адборачную групу і будзе гуляць з камандамі Чэхіі, Галандыі, Аўстрыі і Малдовы. За нацыянальную і маладзёжных зборныя будуць выступаць шмат гульцоў з БАТЭ. Галоўным трэнерам маладзёжнай зборнай з'яўляецца Юры Пунтус.

**Міні-футбол**

Кубак Беларусі, 1/8 фінала. **Барысаў-900 – ЦКК (Светлагорск)**, 9:3 (Круглік 2 галы, Свядыш 2 галы, Сытаў, Паўлавец, Басацкі, Спірыдонаў, Ларыёнаў).

Гэта была першая гульня барысаўцаў з камандай з вышэйшай лігі. Гэты экзамен нашы хлопцы здалі на "выдатна". Барысаўцы зрабілі гульню ад абароны. Гэта тактыка, як высветлілася, прынесла вынік.

* * *

Кубак Беларусі, 1/4 фінала. **Сімург (Менск) – Барысаў-900**, 7:0.

**Барысаў-900 – Белаўтасервіс (Наваполацак)**, 3:4 (Лампартэр, Ларыёнаў 2 галы).

**Барысаў-900 – Верас (Нясвіж)**, 5:5 (Лампартэр, Круглік, Басацкі 2 галы, Кералідзі).

У табелі рангаў Сімург – мацнейшая каманда Беларусі. Каманда Барысаў-900 прайграла ёй з буйным лікам. Але толькі ў такіх гульнях правяраецца каманда. Футбол – гэта гульня, і ў ёй павінны быць як пераможцы, так і прайграўшыя. На жаль, свята ў гэты раз было не на нашай вуліцы.

Другая гульня з Белаўтасервісам прайшла ва ўпартай барацьбе. Наваполацкі выйгралі. У матчы сказаўся іх вопыт.

Трэцяя гульня прынесла нічыйны вынік. У ёй барысаўцы праявілі характар і здолелі набраць першае ачко з камандай вышэйшай лігі.

Перамогу ў кубку Беларусі атрымаў Сімург (Менск). У фінале ён перайграў каманду Верас (Нясвіж) з лікам 6:1.

* * *

26 студзеня адбылася гульня **Луг (Гарадок) – Барысаў-900**, 0:10 (Свядыш 4 галы, Ларыёнаў 2 галы, Круглік 2 галы, Спірыдонаў, Басацкі).

На працягу ўсяго матча была поўная перавага барысаўцаў, што адлюстравалася ў выніках гульні. Гаспадары пляцоўкі здолелі на роўных пратрымацца толькі дзесяць першых хвілін.

* * *

2 лютага адбыўся матч **Барысаў-900 – Эканаміст (Менск)**. Яго вынік 6:4 на карысць гаспадароў (Сытаў, Ларыёнаў, Свядыш 2 галы, Спірыдонаў, Круглік).

Гульня складалася для барысаўцаў вельмі цяжка, прайшла яна ў роўнай барацьбе. Першымі поспеху дамагліся гаспадары. Мяч у вароты супернікаў забіў Сытаў. Праз некалькі хвілін лік стаў роўным. Далейшы ход матча нагадваў гульню ў даганялкі. Першы тайм скончыўся з лікам 3:2 на карысць барысаўцаў.

У другім тайме таксама мела месца ўпартая барацьба. За некалькі хвілін да канца сустрэчы лік быў 5:4 на карысць каманды Барысаў-900. На апошняй хвіліне сустрэчы мяч у вароты Эканаміста забіў Аляксей Круглік і тым самым зняўшы ўсе пытанні аб выніку сустрэчы.

* * *

У занальным турніры першынства Менскай вобласці па міні-футболу барысаўскія хлопцы 1985 – 1986 гадоў нараджэння (трэнер каманды Грыгорый Трафімавіч Гурскі) занялі першае месца.

У адной групе з нашымі спартсменамі былі каманды з Дзяржынска, Маладзечна, Заслаўя і Беразіно. Цяпер хлопцы з Барысава будуць гуляць у першынстве Беларусі.

* * *

Завяршылася спартакіяда школ горада па міні-футболу. У школах, у якіх меней за 1000 вучняў, першай была СШ № 2, другой – політэхнічны ліцэй, трэцяй – гімназія № 2. У школах, у якіх болей за 1000 вучняў, першай была СШ № 23, другой – СШ № 8, трэцяй – гімназія № 1.

**Баскетбол**

На мужчынскім першынстве Беларусі за апошні час адбыліся наступныя гульні: **Папірус (Барысаў) – Аўтазаводзец (Менск)**, 91:96; ОЗАА (Асіповічы) – Папірус Барысаў), 98:74.

Барысаўцы ў гэтым сезоне ў цэлым гуляюць няўдала і знаходзяцца на ніжніх радках турнірнай табліцы.

* * *

На жаночым першынстве Беларусі па баскетболу працягвае паспяхова выступаць барысаўская Бярэзіна-Акадэмія. У сустрэчы з камандай Гомельскай вобласці наша каманда ўпэўнена двойчы перамагла з лікам 81:31 і 79:39.

* * *

**Бярэзіна (Барысаў) – ЭРШВСМ-Гарызонт (Менск)**, 67:60, 73:65.

У гэтым матчы сустрэліся дзве мацнейшыя жаночыя баскетбольныя каманды краіны. У прынцыповых гульнях перамогі былі за барысаўчанкамі. Па разрыву ў ліку відаць, што гульні праходзілі ва ўпартай барацьбе.

**Бокс**

На міжнародным турніры ў Віцебску трэцяе месца ў катэгорыі да 71 кілаграма заняў барысавец Алег Какшынскі.

**Плаванне**

На спартакіядзе горада па плаванню, якая адбылася 20 студзеня, былі паказаны наступныя вынікі. У камандных спаборніцтвах у першай групе першай была гімназія № 3, другой – СШ № 11, трэцім – політэхнічны ліцэй. У другой групе першай была СШ № 15, другой – гімназія № 1, трэцяй – СШ № 16.

**Шахматы**

Адбылося першынство Барысава па шахматах сярод школ, у якіх больш за 1000 вучняў. Першай была гімназія № 1, другой – СШ № 8, трэцяй – СШ № 22.

**Хакей**

28-30 студзеня ў Барысаве праходзіла першынства горада па хакею сярод юнакоў. Сярод тых, хто нарадзіўся ў 1988 – 89 гадах, першай была каманда ЖЭУ-3, другой – ЖЭУ-7, трэцяй – ЖЭУ-4.

Сярод юнакоў, якія нарадзіліся ў 1987 годзе, першымі былі юнакі з каманды ЖЭУ-3, другой – ЖЭУ-4, трэцяй – ЖЭУ-7.

**Лыжны спорт**

У межах зімовай спартакіяды сярод прадпрыемстваў і навучальных устаноў горада прайшла эстафетная гонка. У мужчын першай была папяровая фабрыка, другой – крыштальны завод, трэцім - завод БАТЭ.

У жанчын першымі былі прадстаўнікі завода АГУ, другімі – прадстаўнікі крыштальнага завода, трэцімі – завода медпрэпаратаў.

У юнакоў першымі былі спартсмены завода АГУ, другімі – СШ № 16, трэцімі – СШ № 9.

У дзяўчат першымі былі прадстаўнікі завода АГУ, другімі – СШ № 17.

*Падрыхтаваў С.Чарнуха*

# Гульні сыграны, вынікі падведзены

*Сваімі ўражаннямі аб чвэрць фінале кубка Беларусі па міні-футболу згадзіўся падзяліцца трэнер каманды Барысаў-900 Яўген Аляксандравіч Анохін.*

Пасля перамогі над камандай ЦКК было два магчымых варыянты далейшых падзеяў: трапіць на лідэраў і паглядзець, што мы з сябе прадстаўляем, да чаго патрэбна імкнуцца. Другі варыянт – трапіць у групу сярэдніх каманд вышэйшай лігі, паспрабаваць выйсці ў паўфінал. Жараб'ёўка прапанавала нам першы варыянт.

На працягу трох дзён мы, згуляўшы з камандамі, у якіх выступае шмат гульцоў са зборнай Беларусі па міні-футболу, атрымалі каштоўны вопыт гульні на самым высокім узроўні. У гульні супраць Сімурга (чэмпіёна краіны мінулага першынства) прайгралі з лікам 0:7. Сказалася лішняе хваляванне гульцоў з Барысава. У першай палове гульні мы не выкарысталі некалькі выгадных момантаў.

У другой сустрэчы прайгралі Белаўтасэрвісу з лікам 3:4 (лідэру першынства гэтага года). Сказаўся ў большай ступені недахоп вопыту гульні на падобным узроўні. У апошняй гульні з камандай Верас з Нясвіжа мы прайгравалі з лікам 0:3. Потым у каманды Барысаў-900 атрымалася пераламіць ход гульні і к сярэдзіне другога тайма ўжо выйгравалі з лікам 5:3. Блізкасць жаданага выніку і пашкоджанне нашага брамніка (Алега Шчуцкага) згулялі з камандай злы жарт, і сустрэча скончылася нічыйным вынікам.

Сустрэчы з больш вопытнымі супернікамі паказалі, што ўсім нам патрэбна шмат працаваць над паляпшэннем фізічных кандыцый гульцоў, адпрацоўкай тактычных схем гульні як у абароне, так і ў нападзенні, адпрацоўкай стандартных становішчаў.

*Я.Анохін*

**Увага!**

# Конкурс для турыстаў

*Барысаўскі занальны турысцкі клуб распачынае на старонках газеты "Гоман Барысаўшчыны" конкурс, які прысвечаны 900-годдзю Барысава. Працягвацца ён будзе да жніўня 2002 года, а яго вынікі будуць абвешчаны ў верасні. Пераможцы будуць узнагароджаны прызамі.*

*Вынікі конкурсу будуць падводзіцца па суме набраных балаў. За кожны правільны адказ надаецца па аднаму балу.*

Пытанні першага тура конкурсу:

1. Хто з барысаўскіх турыстаў быў на зямлі Франца Іосіфа?
2. Якія маюцца віды турызму?
3. Калі быў утвораны барысаўскі гарадскі занальны турысцкі клуб?
4. Які першы турыстычны клуб і ў якім годзе быў утвораны ў Барысаве?
5. Хто першы выканаў нарматыў майстра спорту па турызму ў г. Барысаве?

Адказы неабходна дасылаць на адрас газеты: **222120, г.Барысаў-1, а/с 43.** Адказы будуць прымацца да 28 лютага. Дата будзе вызначацца па паштоваму штэмпелю.

Жадаем поспехаў!

# Парады ад Наталлі

*Кітайская кухня*

*Стравы кітайскай кухні – гэта багацце гародніны, грыбоў, прыпраў, нізкакаларыйная рыба, постнае мяса. Цеплавая апрацоўка страў мінімальная, што спрыяе захаванню ў іх каштоўных пажыўных рэчываў і дазваляе хутка прыгатаваць ежу.*

**Філе рыбы ў вострым соусе**

500-600 г філе камбалы ці іншай рыбы, 2-3 стручкі сухога чырвонага перцу, 3-4 зубцы часнаку, 2 ст. лыжкі алею, 1 цыбуліна, 2 памідоры, 2 ст. лыжкі какосавай стружкі, па 1 ч. лыжцы карыяндра і солі, 1 ст. лыжка соку цытрыны, 1 ст. лыжка нашынкаванай пятрушкі.

Цыбулю і часнок парубіць, сухі перац раздрабіць у ступцы.

Алей разагрэць у глыбокай патэльні, падсмажыць у ім цыбулю і часнок 3-4 хвіліны, дадаць перац і дробна нашынкаваныя памідоры. Пасмажыць 2-3 хвіліны, пакласці карыяндр, соль, какосавую стружку і яшчэ смажыць на працягу 1-2 хвілін.

Філе рыбы нарэзаць на кавалкі, пакласці ў прыгатаваны гарачы соус, уліць сок цытрыны, 3-4 шклянкі вады, тушыць 3-5 хвілін, пасля чаго дадаць пятрушку і патушыць яшчэ 2-3 хвіліны.

Падаць да стала разам са звараным рассыпістым рысам.

**Курыца з ананасам**

500 г курынага філе, 450 г кансерваваных ананасаў ці 1 свежы ананас, абчышчаны і нашынкаваны кубікамі, 1 цыбуліна, 1 зубок часнаку, 5-6 пёрцаў зялёнай цыбулі, 2 ст.лыжкі соевага соусу, 2 ст.лыжкі мукі, 4 ст. лыжкі алею, 1 ч.лыжка імбіру, соль, молаты чорны перац.

Муку перамяшаць са спецыямі. Мяса нарэзаць тонкімі скрылікамі, абваляць у муцэ і смажыць у гарачым алеі да гатоўнасці. Выкласці мяса на талерку і паставіць у цёплае месца.

У тым жа алеі пасмажыць накрышаную цыбулю і часнок, пакласці ананас разам з сокам і ўліць 2 шклянкі вады. Дадаць соевы соус, пакласці абсмажанае мяса, давесці да кіпення.

Дадаўшы зялёную цыбулю, перамяшаць і выкласці на блюда.

# З гаспадарчага дзённіка Ганны Цюндзявіцкай

**Як знішчыць прусакоў і тараканаў**

**Першы спосаб.** Паўфунта патоўчанага і прасеянага мыш'яку, чвэрць фунта цукру, таксама прасеянага, паўфунта пшанічнай мукі змяшаць разам і гэтым парашком пасыпаць тыя месцы, дзе насякомыя часцей за усе збіраюцца, менавіта у печах, комінах і г.д.

**Другі спосаб.** Карані белага вадзянога гарлачыка, высушаныя і патоўчаныя, дабаўляюць у гарачае малако з цукрам і ставяць на плоскіх талерках на печы, вокнах і г.д. Ці сыплюць парашок кобальту на канцы нажа ў малако з цукрам.

Згаданыя спосабы знішчаюць насякомых, але самы дзейсны і надзейны - першы. Неабходна толькі атручаных насякомых спальваць, а не высыпаць туды, дзе іх можа з'есці птушка, бо, несумненна, і яна атруціцца.

**Трэці спосаб.** Прусакі гінуць яшчэ ад персідскага парашку. Аднак і ад багуну яны таксама выводзяцца, а гэта абыходзіцца таней.

# Госць нумара



*Сёння мы вам прапануем размову нашага карэспандэнта з адным з лепшых гульцоў каманды па міні-футболу Барысаў-900 Алегам Шчуцкім.*

**Алег, якім чынам вы трапілі ў каманду Барысаў-900?**

Гуляў на вобласці, заўважылі, запрасілі.

**Якую адзнаку вы можаце паставіць сваёй гульні?**

Мяркую, што можна паставіць чатыры з мінусам. А калі шчыра, то сабе адзнак не выстаўляю. З боку відаць лепей. Хай адзначаюць гледачы.

**Калі ў Барысава-900 атрымаецца трапіць у вышэйшую лігу, як мяркуеце, што чакае каманду?**

Спачатку туды трэба трапіць, а потым меркаваць аб месцах.

**Якія ўражанні аб узроўні камандаў вышэйшай лігі?**

З улікам згуляных матчаў кубка Беларусі ўзровень дастаткова высокі.

**Што патрэбна барысаўскай камандзе, каб дасягнуць такога ўзроўню?**

Набіраць вопыту.

**Меркавалі, што будзеце лідэрамі пасля першага круга?**

Пасля некалькіх тураў зразумелі, што ў каманды маецца патэнцыял, можна прыстойна згуляць.

**Якія гульні вам больш памятаюцца?**

У першынстве Беларусі – з Энергетыкам з Навалукомля, у кубку Беларусі – з Сімургам.

**Якія гульні былі самымі цяжкімі?**

Цяжкія ўсе гульні. У кожнай з іх патрэбна выкладвацца да канца.

*Гутарку вёў С.Чарнуха*

**Увага!**
**У бліжэйшых нумарах нашай газеты распачнецца другі конкурс для заўзятараў футбола.**



# Спартыўнае арыентаванне на лыжах

*У нядзелю 20 студзеня ў Дудзінцы прайшлі традыцыйныя спаборніцтвы па спартыўнаму арыентаванню на лыжах.*



Яны былі арганізаваны гарадскім аддзелам спорту і турызму і цэнтрам юных турыстаў. Галоўным суддзёй спаборніцтваў быў С.М.Голуб. У іх прымалі ўдзел прадпрыемствы і навучальныя ўстановы горада. Першынство праходзіла па трох дысцыплінах, якія адрозніваліся працягласцю трасы і складанасцю.

Удзельнікам спаборніцтваў трэба было прайсці вызначаную дыстанцыю і зрабіць правільныя адзнакі на карце месц знаходжання кантрольных пунктаў. Самай масавай была група "Г". Яе дыстанцыя складала 2 кіламетры, на працягу якіх мелася тры кантрольныя пункты. Для навічкоў гэта было сур'ёзным выпрабаваннем. Большасць удзельнікаў не змаглі дакладна справіцца з заданнем. У выніку прызавыя месцы размеркаваліся наступным чынам.

Навучэнцы (група "Г"):

Хлопцы:

Першае месца – Павел Рагоўскі (СШ № 23);

Другое месца – Максім Залескі (СШ № 12);

Трэцяе месца – Саша Круглоў (СШ № 17).

Дзяўчаты:

Першае месца – Алёна Дакука (гімназія № 2);

Другое месца – Юля Дравізюк (СШ № 23).

У групе "Б" удзельнічалі спартсмены, якія выступалі ўжо некалькі разоў. Дыстанцыя 3,8 кіламетраў. У выніку сярод хлопцаў лепшымі былі:

Першае месца – Коля Шакавец (СШ № 23);

Другое месца – Косця Ермаковіч (СШ № 23);

Трэцяе месца – Слава Драніца (СШ № 17).

Дзяўчаты:

Першае месца – Кацярына Башкова (СШ № 17);

Другое месца – Таццяна Булай (СШ № 17);

Трэцяе месца – Кацярына Макавік (СШ № 9).

У групе "А" дыстанцыя складала 5,5 кіламетра. У ёй прымалі ўдзел найбольш вопытныя спартсмены. Вынікі спаборніцтваў па групе:

Хлопцы:

Першае месца – Павел Пятровіч (СШ № 23);

Другое месца – Саша Шышла (СПШ № 19);

Трэцяе месца – Саша Махлянкоў (СПШ № 19).

Сярод дарослых спартсменаў вынікі былі наступныя.

Група "А", мужчыны:

Першае месца – Віктар Зельхаў (завод АГУ);

Другое месца – Аляксандр Зельскі (завод АГУ);

Трэцяе месца – Міхаіл Сліва (БВА "Экран").

Жанчыны:

Першае месца – Наталля Маслоўская;

Другое месца – Надзея Рэпіна;

Трэцяе месца – Людміла Сацукевіч;

Усе – прадстаўніцы завода медпрэпаратаў.

Група "Б", мужчыны:

Першае месца – Уладзімір Чыгорскі (140-вы рамонтны завод);

Другое месца – Сяргей Марозаў (ВДА);

Трэцяе месца – Віктар Шарко (140-вы рамонтны завод).

Сярод жанчын першай была Ірына Лісенка (БВА "Экран").

У камандным заліку сярод навучальных устаноў першае месца было ў СШ № 23, другое – у СШ № 17, трэцяе – у гімназіі № 2.

Сярод прадпрыемстваў першае месца дасталося БВА "Экран", другое – заводу медпрэпаратаў, трэцяе – 140-му рамонтнаму заводу.

Па выніках спаборніцтва была сфарміравана юнацкая зборная каманда горада, якая будзе ўдзельнічаць у першынстве Менскай вобласці.

*С.Чарнуха*

# Забытыя гульні

**Б-р-р!**

Кожны гулец па чарзе павінен лічыць з адзінкі, і ўсякі раз, калі набліжаецца да лічбы, шматкратнай, прыкладам, сямі (аб лічбе дамаўляюцца папярэдне), гэта значыць 14, 21, 28, 35, 42 і г.д., то замест гэтых лічбаў павінен казаць: "Б-р-р!". Хто памыліцца, той плаціць фант.

**Адваротныя жмуркі**

Аднаму з гульцоў (звanару) завязваюць назад рукі й чапляюць на шыю званочак. Рукі звязваюць дзеля таго, каб ён не затрымліваў сумысля званочка. Уся рэшта гульцоў завязваюць сабе вочы і павінны лавіць званара. Той, хто злавіў, сам становіцца званаром. У часе змены званароў рэшце гульцоў дазваляецца знімаць павязкі з вачэй.

Для гэтай гульні трэба каб было прасторнае і вольнае ад рэчаў памяшканне. Гульня вельмі забаўная і цікавая.

*(Па Я.Шнаркевічу)*

# Крыжаванка

## *складзена па матэрыялах гэтага нумара*

**Па гарызанталі:** 1 – вёска на Барысаўшчыне; 2 – харэаграфічны калектыў СШ № 20; 3 – былая вёска на Барысаўшчыне; 4 – ансамбль песні барысаўскага Палаца культуры; 5 – вуліца ў Барысаве; 6 – музей СШ № 8; 7 – вуліца ў Барысаве; 8 – кіраўнік аднаго з паўстанцкіх атрадаў на Барысаўшчыне ў 1863 годзе; 9 – вёска на Барысаўшчыне; 10 – брамнік каманды Барысаў-900 па міні-футболу; 11 – футбаліст каманды Барысаў-900; 12 – вуліца ў Барысаве, 13 – футбаліст каманды Барысаў-900; 14 – тутэйшы танцавальны ансамбль; 15 –вёска на Барысаўшчыне.




**Адказы на крыжаванку**, што змешчана ў "ГБ" № 1(34): 1 – Рыбачнае; 2 – Мадэрн; 3 – Вуглы; 4 – Бобр; 5 – Рова; 6 – Глыбочыца; 7 – Дымкі; 8 – Пліса; 9 – Шклянкоў; 10 – Дамініканцаў; 11 – Дудзінка; 12 – Забашаўка, 13 – Печы, 14 – Батурына, 15 – Дэкаданс, 16 – Перасады.



Сівіца, водонапорная вежа

## Ці ведаеце вы, што...

У **1919** годзе выйшла ў свет кніга А.Смольскага "Геаграфія Беларусі". У ёй нямала звестак прысвечана Барысаўшчыне. У прыватнасці, у ёй паведамляецца, што:

вышыня Барысава над узроўнем мора – **166** метраў;

сярэдняя тэмпература паветра ў студзені ў Барысаве за 50 год замераў складала -**7°С**;

сярэдняя тэмпература паветра ў ліпені складала **18,2°С**;

сярэднегадавая тэмпература складала **5,4°С**;

розніца паміж зімняй і летняй тэмпературамі складала **25,2°С** (для параўнання максімальная рознасць з гарадоў, што зараз уваходзяць у Беларусь, была ў Быхаве – 26,2°С, мінімальная – Берасце – 23,7°С);

у Барысаўскім павеце **48%** плошчы было занята лесам, што з'яўлялася вялікім адсоткам сярод усіх беларускіх паветаў;

плошча насельніцтва ў нашым краі (па дадзеных за 1897 год) складала 25 чалавек на квадратную вярсту;

за час вайны (1914 – 1919 годы) насельніцтва правабярэжнай часткі Барысаўшчыны паменшылася на 30 – 40%;

насельніцтва Барысава складала ў 1919 годзе 20 тысяч жыхароў;

у Барысаве ў 1919 годзе было дзве запалкавыя фабрыкі, 6 пільняў, шкляная гута, папяровая і картонная фабрыкі і каля 20 розных дробных заводаў.

# Лічбавая крыжаванка

Ніжэй прыведзены пералікі лічбаў, якія згрупіраваны па іх колькасці. Вам неабходна падабраць і запісаць у незафарбаваныя радкі і слупкі лічбы такім чынам, каб супалі іх усе перасячэнні.

**8:** 16897515, 80102397;
**7:** 1235741, 1597501, 4159700, 5566879, 7264864, 7942534;
**6:** 135213, 137946, 165561, 214897, 267014, 310008, 410594, 412354, 557880, 568201, 569752, 654289, 764216, 840112, 840518, 877897;
**5:** 12465, 14596, 14900, 17459, 25843, 25874, 27274, 30549, 31006, 34168, 44683, 52640, 66491, 73301, 77492, 82558, 87573, 94242;
**4:** 1436, 1568, 1579, 2200, 3115, 3184, 3642, 4760, 4774, 5126, 5640, 7201, 7435, 7568, 7987, 9884;
**3:** 113, 123, 131, 240, 247, 301, 446, 448, 491, 495, 509, 529, 555, 617, 699, 701, 720, 777, 778, 797, 835, 836, 884;
**2:** 23, 41, 50, 51, 58, 72, 75, 78, 85, 91.




# Японская крыжаванка

У японскай крыжаванцы неабходна адгадаць не словы ці размяшчэнне лічбаў, а выяву. Лічбы паказваюць, колькі груп чорных клетак знаходзяцца ў адпаведным радку або слупку і колькі суседніх чорных клетак утрымлівае кожная група. Групы падзелены паміж сабою не менш чым адной пустой клеткай. Пустыя клеткі могуць быць і па краях поля.



## З народнага гумару

- Я чуў, дзядзька Сідар, што вы выдаеце дачку за сына суседа, з якім вы некалькі год не размаўляеце.
- Так. Гэта адзіны спосаб адпомсціць яму.

* * *

- Ведаеш, любы, у мяне ёсць вялікі недахоп: не ўмею эканоміць грошы, - кажа маладая жонка.
- Нічога, даражэнькая. Навучышся, бо я яшчэ не навучыўся іх зарабляць.

* * *

- Заўсёды ты бярэш тое, што людзі не бяруць, - папракнула жонка мужа, выходзячы з ім з крамы.
- Калі б я меў уласны густ, то, мусіць, і ты не была б маёй жонкай, - прамовіў ён у адказ.

* * *

- Ты чуў, Кастусь са сваёю памірыўся?
- Не чуў. А не брэшаш?
- Ды каб я праваліўся! Учора іду, гляджу: каля клуні дружненька гэтак дровы ўдваіх пілязь. Проста паглядзець люба.
- Дык гэта ж яны мэблю дзялілі.

## Адказы на японскую і лічбавую крыжаванкі, што былі змешчаны ў "ГБ" № 1(34)





ГОМАН БАРЫСАЎШЧЫНЫ

Рэгістрацыйны нумар 595

Заснавальнікі: І.Белы, У.Буйко, У.Дубаневіч, М.Мацельскі, М.Пучыла.

Рэдактар М.Мацельскі

Юрыдычны адрас рэдакцыі: г. Барысаў, 1-ы зав. К.Лібкнехта, 1

Наклад 3000 паасобнікаў

Падпісана ў друк 18.20 04.02.2002 г.
Замова № 921
Друкарня імя 1-га Мая
г. Барысаў, вул. Будаўнікоў, 33
e-mail: gomanbar@irex.minsk.by

Адрас для пісьмаў:
222120, Барысаў-1,
а/с 43